—Людзьмі звацца!
Янка Купала

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
14
ЧЭРВЕНЯ
1991 г.
№ 24 (3590)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ—15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)

## МЭБЛЯ ДЛЯ «КРУГЛАГА СТАЛА»

Яўген НОВІКАЎ: «...Прыватная ўласнасць і суверэнізацыя — гэта тая аснова, на якой мы гатовы правесці «круглы стол» з усімі нашымі апанентамі».

СТАРОНКА 4.



## АЧУНЬВАЕМ АД БЯСПАМЯЦТВА

Рэспубліканскі семінар творчай інтэлігенцыі ў Віцебскай вобласці.

СТАРОНКА 5.

## ЧАС ПАРАЗУМЕННЯ



Нататкі з кангрэса беларусістаў.

СТАРОНКІ 6—7.

## «ПРА ТОЕ, ЯК Я ЎПЕРШЫНЮ ЗА МЯЖУ ЗБІРАЎСЯ»

Апавяданне Л. ДРАНЬКО-МАЙСЮКА

СТАРОНКІ 8—9.

## НАДЗЕЯ ЁСЦЬ, А ШАНЦЫ?

З нагоды нечарговага з'езда Музычнага таварыства БССР, які стаўся ўстаноўчым з'ездам Саюза музычных дзеячаў Беларусі.

СТАРОНКІ 10—11.

## С ПРЕМЬЕРОЙ ВАС, ТОВАРИЩ СТОЛЯРОВ...

Сумная гісторыя пра тое, як не адбылася прэм'ера беларускамоўнага тэлефільма «Плач перапёлкі».

СТАРОНКА 13.



— Без работы я не застануся...

Фота А. ШАБЛЮКА.

# Кола Дзён

Адзін папулярны раман «пра шпіёнаў» называецца «Што можа быць лепш за дрэннае надвор'е?» Нармальны чалавек, калі раптам задасца такім пытаннем, хутчэй за ўсё адкажа: лепш можа быць толькі добрае надвор'е. Праўда, ёсць людзі (і неабавязкова гэта шпіёны), якіх хлебам не кармі, а падай «неспрыяльныя кліматычныя ўмовы», або, яшчэ лепш, — стыхійныя бедствы. Па-першае, яны прызвычаіліся кіраваць і мабілізоўваць масы на працоўныя подзвігі ва ўмовах надзвычайнага становішча. А па-другое, у выпадку недахопу харчу ўсё можна спісаць на дождж, засуху, холад, спёку і г.д.

А ці звярнулі вы ўвагу ў мінулыя выхадныя на тых, хто на толькі што атрыманых гародных участках упарта корпаліся ў зямлі нават пад самым моцным ліўнем. І што цікава: ніхто іх не мабілізоўваў, не заклікаў да гераізму, ніхто нічога ім не абяцаў. Чалавечы інтарэс спрацоўвае пры любым надвор'і.

**6 ЧЭРВЕНЯ**

**законапраект «Аб прававым рэжыме надзвычайнага становішча» дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі вярнулі на дапрацоўку, не прыняўшы яго нават у першым чытанні.**

**7 ЧЭРВЕНЯ**

**Вярхоўны Савет СССР прысвяціў шмат часу так званаму «пятаму пункту». Напружаныя дэбаты разгарнуліся вакол пытання: скасаваць ці пакінуць у савецкім пашпарце графу «нацыянальнасць». Рашэнне так і не было прынята.**

**У Кракаве завяршыўся Міжнародны сімпозіум па культурнай спадчыне дзяржаў — членаў Нарады па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (НБСЕ). У якасці назіральнікаў былі прадстаўлены ЮНЕСКА, Савет Еўропы. У сімпозіуме прынялі ўдзел таксама прадстаўнікі РСФСР, Украіны, Узбекістана і Беларусі. Прыняты дакумент аб недатыкальнасці культурнай спадчыны, якая належыць адной краіне, але знаходзіцца на тэрыторыі іншай.**

**8 ЧЭРВЕНЯ**

**апублікаваны зварот ЦК КПБ да ленінградцаў у сувязі з рэферэндумам 12 чэрвеня аб перайменаванні Ленінграда ў Санкт-Пецярбург. ЦК кампартыі Беларусі, «падзяляючы глыбокую трывогу жыхароў рэспублікі», заклікаў удзельнікаў апытання сказаць рашучае «не» перайменаванню. (Ці вяртанню гістарычнай назвы гораду на Няве?)**

**Падраздзяленні АМАП, «па дарозе» на вучэнні ў Адэсу, нечакана дэсанціраваліся ў Бендэрах і Тыраспалі. Паследаваў пратэст Прэзідэнта Малдовы М. Снегура. Напярэдадні ў Эстоніі АМАП атакаваў чарговы таможны пункт — на мяжы з Расіяй.**

**9 ЧЭРВЕНЯ**

**ў Маскве, у Саюзе кінематаграфістаў СССР, адбылася прэс-канферэнцыя, прысвечаная афіцыйнай рэгістрацыі Фонду абароны галоснасці. Фонд будзе матэрыяльна і юрыдычна дапамагаць журналістам, работнікам кіно і тэлебачання, а таксама іх сем'ям у выпадку звальнення ці гібелі.**

**10 ЧЭРВЕНЯ**

**ў Маскве і Ленінградзе прайшлі масавыя перадвыбарчыя мітынгі ў падтрымку Б. Ельцына. У той жа дзень кандыдаты на пост Прэзідэнта РСФСР, за выключэннем Ельцына, правялі тэледэбаты.**

**11 ЧЭРВЕНЯ**

**Вярхоўны Савет БССР прыступіў да разгляду праекта Дагавору аб саюзе суверэнных рэспублік (Саюзнага дагавору).**

**12 ЧЭРВЕНЯ**

**грамадзяне Расіі ўсеагульным, прамым і тайным галасаваннем выбіралі першага ў гісторыі Прэзідэнта рэспублікі. Магчыма, грамадзяне РСФСР — беларусы прыслухаліся да звароту групы народных дэпутатаў, прадстаўнікоў дэмклуба ў ВС БССР, якія заклікалі галасаваць за Ельцына, «за сапраўдную дружбу і супрацоўніцтва народаў Расійскай Федэрацыі і народа Беларусі».**

**З ПОШТЫ ТЫДНЯ**

# Як нам называцца?

Згодны з тымі, хто сёння выступае за аднаўленне ў ранейшых правах нашай «рэабілітаванай» беларускай тапанімікі, у прыватнасці, за вяртанне нашай сталіцы яе колішняй назвы «Менск». Не згодны з прапановай мовазнаўцы, члена-карэспандэнта АН БССР А. Жураўскага, выказанай ім у артыкуле «Мабыць, лепш «Менеск»?» (надрукаваны нядаўна ў газеце «Звязда»). Трэба аднавіць «Менск»: так заўсёды гучала ў народзе. «Мінск» — гэта знак русіфікацыі. А «Менеск» — з прычыны архаічнасці не прыжываецца.

Ну і потым незразумела, чаму некаторыя навукоўцы забываюць каштоўны вопыт. У 1919 годзе сталіцы рэспублікі была вернута яе сапраўдная назва «Менск». Менавіта гэтая назва значылася на тытульных старонках кніг і на розных афіцыйных дакументах, у тым ліку і пад пастановай VIII Усебеларускага з'езда Саветаў аб прыняцці другой Канстытуцыі БССР (П. 4. 1927 г.).

Добра, што газеты друкуюць у апошні час параўнальныя табліцы, якія даюць магчымасць даведацца, як гучала калісь назва таго або іншага пасёлка, гарадка, вёскі. Гэта актуальна, бо штучныя найменні блытаюцца, бо ў кожнай вобласці (а, бывае, і ў раёне) адны і тыя ж назвы калгасаў і саўгасаў, накшталт: «Першамайскі», «Маладзёжны», «Акцябрскі» і г. д.

У нас калі парк ці тэатр, ці кансерваторыя, то абавязкова імя Горкага, імя Луначарскага... Страшэнная аднастайнасць. А наш цэнтр. Праспект Леніна і вуліца Леніна, вуліцы Кастрычніцкая, Камуністычная, Інтэрнацыянальная, Камсамольская; або — імя Лібкнехта, Розы Люксембург, Урыцкага, Валадарскага, Калініна, Маркса і Энгельса, Клары Цэткін, Ландэра, Куйбышава, Свярдлова, Будзённага, Варашылава... Каго там яшчэ? Ні ў адной іншай сталіцы, ні ў адным іншым вялікім горадзе такога ўра-рэвалюцыйнага набору назваў няма.

І яшчэ пра адно: пра наш дзяржаўны сцяг. Некалі баязлівыя чыноўнікі замест белага колеру навязалі сцягу карункі... з жаночай спадніцы. З цягам часу прывыклі, забыліся, а ў той, памятаю, час з беларускага сцяга смяяліся: ну і сімвал! Карункі!..

Прынята Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце, Беларусь становіцца суверэннай дзяржавай, і нашаму Вярхоўнаму Савету пара паклапаціцца аб адпаведнай нацыянальна-дзяржаўнай сімволіцы.

**Пімен ПАНЧАНКА,**
**народны паэт Беларусі.**

**РЭПЛІКА**

# А ШТО Ж НАКОНТ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ...

З 25 сакавіка па 25 красавіка ў Віцебску праходзіла персанальная выстава мастака Алеся Пушкіна. Яна была прымеркавана да Дня Волі, да 73-й гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі і стала значнай падзеяй у жыцці горада. У бліжэйшых нумарах мы раскажам аб ёй больш падрабязна. Зараз — пра іншае.

Арганізатар выставы — Беларускі фонд культуры. Па дамоўленасці паміж віцебскім і гродзенскім аддзяленнямі БФК, пасля закрыцця выставы ў Віцебску яна павінна была пераехаць у Гародню. Там пад экспазіцыю было адведзена памяшканне былога каралеўскага палаца, дзе яшчэ нядаўна месціўся абком КПБ. Дарэчы, выстава Алеся Пушкіна супадала па часе з гастролямі ў Гародні тэатра імя Якуба Коласа.

6 чэрвеня ў былой рэзідэнцыі каралёў Рэчы Паспалітай усё было гатова да ўрачыстага адкрыцця выставы: зроблена экспазіцыя, надрукаваны і расклеены афішы, запрошаны госці, падрыхтавана тэатралізаваная імпрэза, але...

Напярэдадні экспазіцыю наведалі прадстаўнікі абкома КПБ, пасля чаго мастаку быў прад'яўлены ультыматум — убраць творы, якія прыйшліся не даспадобы мясцоваму начальству. Зразумела, што А. Пушкін адмовіўся. Такім чынам, выстава закрылася яшчэ да адкрыцця. Адказнасць за гэты інцыдэнт узяла на сябе дырэктар тутэйшага гісторыка-археалагічнага запаведніка А. Салаўёва. «Я камуніст і выконваю рашэнне абкома», — заявіла яна. Фонд культуры ў гэтай сітуацыі прамаўчаў...

Цікава, аднак, хто аплаціць выдаткі на транспарціроўку твораў з Віцебска ў Гародню і назад, надрукаванне афіш, мантаж і дэмантаж экспазіцыі?

І яшчэ, на якой падставе адна грамадская арганізацыя (КПБ) умешваецца ў справы другой грамадскай арганізацыі (БФК)? На нядаўнім сваім пленуме Беларускі фонд культуры выказаўся за незалежнасць ад Масквы. А як наконт незалежнасці ад мясцовых партакратаў?

**В. БОГУШ.**




Інсталяцыя «Праз чырвоныя краты — да свабоды», адна з работ, што выклікалі канфлікт.

Фота Ю. РАБРОВА.

# Хто дасць імя?

**Міністэрства культуры БССР запрашае чытачоў «ЛіМа» да абмеркавання назвы будынка, што размешчаны на Цэнтральнай плошчы г. Мінска. Гэты будынак павінен стаць адным з галоўных цэнтраў прапаганды нацыянальнай культуры, дахам і сцэнічнай пляцоўкай для вядучых беларускіх прафесійных калектываў, мастацкіх калектываў краіны і гасцей з-за мяжы. Ужо ёсць першыя прапановы назваць гэты будынак «Цэнтрам беларускай культуры», «Палацам культуры рэспублікі», «Беларускім цэнтрам культуры», «Беларускім Домам» і інш. Просім свае прапановы накіроўваць у рэдакцыю штотыднёвіка.**

# У фонд імя Караткевіча

**Ужо некалькі месяцаў пры Беллітфондзе існуе фонд імя У. Караткевіча па дапамозе маладым літаратарам (рахунак 700112). Папаўняецца ён толькі за кошт добраахвотных ахвяраванняў старэйшых пісьменнікаў. Арганізацыі-мецэнаты пакуль што маўчаць. На сённяшні дзень у фонд сродкі пералічылі: Дамашэвіч У. М. — 1100 руб., Пруднікаў П. І. — 100 руб., Кучкоўская Н. С. — 200 руб., Саскевіч М. А. — 100 руб., Клаўдзія Каліна — 200 руб.**

**Шчыры ўсім дзякуй.**

**А. ФЕДАРЭНКА,**
**сябра камісіі па размеркаванні фонду імя Караткевіча.**

# «МЫ СПАДЗЯЁМСЯ НА ДАПАМОГУ»

**11 чэрвеня ў галоўным корпусе БДУ адбылася прэс-канферэнцыя дабрачыннага цэнтра «Водгук».**

На пачатку канферэнцыі журналістам былі раздадзены інфармацыйныя матэрыялы, якія знаёмілі з дзейнасцю «Водгуку» за 1990 — першую палову 1991 года. Дабрачынны цэнтр арганізаваў сумесна з Міністэрствам народнай асветы і МЗС БССР аздараўленчы адпачынак за мяжой для 4 тысяч 220 дзяцей з радыяцыйнай зоны. У замежным друку «Водгук» апублікаваў у тры разы больш артыкулаў і нарысаў па чарнобыльскіх праблемах, чым у савецкім (трыццаць восем супраць дванаццаці). Але яшчэ больш цікавыя планы цэнтра на будучае. «Водгук» запланаваў сумесна з Польскім касцёлам і Беларускім тэлебачаннем выезд трох тысяч дзяцей летам, а ўсяго да канца года плануецца вывезці на аздараўленчы адпачынак у Польшчу 10 тысяч маленькіх чарнобыльцаў.

Намеснік старшыні дабрачыннага цэнтра Ларыса Агафоненка расказала, як быў створаны «Водгук» і як ён дзейнічаў дагэтуль. Усё пачалося з публікацыі Святланы Саўрасавай у газеце «Жыцце права» пра дзяцей у зоне заражэння. На аўтара абрушыўся цэлы шквал прапаноў чытачоў аб дапамозе. У Польшчы былі створаны грамадскасцю два камітэты, якія заняліся арганізацыяй фондаў дапамогі дзецям.

— Так атрымалася, што пакуль нас менш ведалі ў рэспубліцы, нам было лягчэй працаваць, — сказала Ларыса Аляксандраўна.

Першая група дзяцей з радыяцыйнай зоны выехала на аздараўленчы адпачынак у Польшчу ў маі мінулага года, былі гэта дзеці з Хойніцкага раёна. А ўсяго за мінулы год было вывезена на адпачынак 1600 дзяцей. 17 лістапада «Водгук» быў афіцыйна зарэгістраваны, 2 чэрвеня ў Польшчу выехаў першы сёлетні аўтобусны караван. Больш увагі «Водгук» вырашыў удзяліць тым дзецям, за якіх ніхто не можа паклапаціцца, — сіротам. Наладжаны сувязі з інтэрнатамі Брэсцкай, Магілёўскай і Гомельскай абласцей.

— Мы сабралі гэтую прэс-канферэнцыю, каб звярнуцца з заклікам: «Дапамажыце нам!» — сказала выконваючая абавязкі старшыні цэнтра Таццяна Кот.

«Водгук» не хоча збаўляць тэмпаў, якія набраў за год, але крыніцы фінансавых ахвяраванняў вычэрпваюцца. Дорага ўсё — і тэлеграмы, і тэлефонныя перагаворы, і аплата за перавозку дзяцей. На пытанне аб тых, хто падтрымлівае дабрачынны цэнтр, Таццяна Аляксандраўна назвала кааператывы «Сузор'е», «Логас» і чытачоў газеты «Поиск». На рахунку цэнтра зараз смяхотная лічба — 1200 рублёў. «Водгук» мае шэсць штатных супрацоўнікаў, сярэдняя зарплата якіх 250 рублёў. Але і тую яны пакуль не атрымліваюць, таму што грошай няма. «Водгукам» распрацаваны праект па перасяленні чарнобыльскіх дзяцей у экалагічна чыстую зону, у сямейныя дзіцячыя дамы. Кіраўніцтва калгаса «Новы свет» Капыльскага раёна заявіла аб сваім жаданні пабудаваць на тэрыторыі гаспадаркі «дзіцячую вёску».

У пытаннях, якія задавалі членам «Водгука», звярталася ўвага на дрэнную тэхнічную арганізацыю і на парушэнне правіл бяспекі, якія мелі месца 6 чэрвеня пры перавозцы дзяцей у Польшчу. На гэта быў дадзены адказ, што гэтае мерапрыемства ажыццяўлялі праваслаўныя цэрквы Беларусі і Польшчы, і «Водгук» выступаў тут толькі ў якасці сувязнога звяна. І шмат часу было ўдзелена пытанню аб дваццаці дзевяці дзецях, якім камісіі Вярхоўнага Савета БССР прадоўжылі тэрмін аздараўленчага адпачынку. Справа ў тым, што сем'і, у якіх адпачывалі дзеці, прынялі рашэнне аб іх усынаўленні. Карэспандэнт «Народнай газеты» Віктар Харошка, які задаваў пытанне, сказаў, што, на ягоную думку, у гэтай сітуацыі вінавата прававая недасведчанасць «Водгуку».

Адказваў на гэтае пытанне загадчык аддзела сацыяльнай аховы дзяцінства Станіслаў Бубен. Ён сказаў, што чатырнаццаць дзяцей вырашана не аддаваць на ўсынаўленне палякам, а пытанне наконт астатніх будзе вырашацца неўзабаве ў Торуні, куды ён збіраецца выехаць разам з дырэктарамі тых інтэрнатаў, адкуль былі ўзяты дзеці. Магчыма ўстанаўленне апякунства над некаторымі з іх. Галоўнае ж, лёс кожнага дзіцяці трэба разглядаць паасобку.

Ад клуба мнагадзетных сем'яў горада Мазыра выступіла на канферэнцыі Галіна Дубіна. Яна сказала, што некаторым прадстаўнікам друку не трэба было б шукаць «кампрамату» на «Водгук». Арганізацый, якія ніколі не робяць памылак у сваёй працы, не існуе, а іх клуб звязвае з дабрачынным цэнтрам шмат надзей. І калі журналісты маглі накіраваць іх да іншай арганізацыі, якая б магла паклапаціцца аб чарнобыльскіх дзецях лепш за «Водгук», яны б сказалі ім вялікі дзякуй.

Члены «Водгуку» выказалі спадзяванне на аб'ектыўнае адлюстраванне канферэнцыі ў друку, на тое, што сустрэча з прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі дапаможа ім атрымаць новыя дабрачынныя ахвяраванні, наладзіць новыя сувязі з прадпрыемствамі, установамі.

**Ягор КОНЕЎ,**
**студэнт факультэта журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна.**

# НЕ ЦЫМБАЛЫ—ДЗІВА!

Сказаць, што цымбалы — народны музычны інструмент, значыць, нічога не сказаць. Яны, так бы мовіць, самы-самы народны, авеяны прыгожымі легендамі і паданнямі (поруч, скажам, з гуслямі) інструмент. І кожны больш-менш дасведчаны чалавек скажа, што для цымбалаў характэрна выкананне жанрава-побытавай музыкі.

Аднак жа той, хто ў адзін з апошніх майскіх дзён быў у мінскім Доме літаратара, мог відочна пераканацца, што цымбалам падуладна музыка любая — не толькі народная, але і самая што ні ёсць высокая класіка. А сцвярджаў гэта цымбаліст-віртуоз, цымбаліст па прызванні, па складзе душы і сэрца, цымбаліст ад Бога Алесь Лявончык — лаўрэат рэспубліканскага конкурсу, саліст нашай філармоніі, чый творчы вечар прайшоў у Доме літаратара. Прысутныя ў зале мелі зайздросную магчымасць слухаць музыканта яркай творчай індывідуальнасці, высокай артыстычнасці, абаяльнай шчырасці, якому ўласціва майстэрскае валоданне інструментам, тэхнічная свабода, глыбокае пранікненне ў задуму аўтараў розных эпох і народаў.

На свой юбілейна-справаздачны канцэрт Алесь Дзмітрыевіч (яму нядаўна споўнілася пяцьдзесят гадоў) прыйшоў з сынамі, таксама музыкамі — цымбалістам Алесем і піяністам Міхасём (яны ўтрох і зафіксаваны на здымку М. Жылінскага). У вечары прыняла ўдзел зямлячка цымбаліста, паэтэса Галіна Каржанеўская.

На гэтым можна было б паставіць і кропку. Але хочацца звярнуць увагу чытачоў на адзін яўны парадокс. Як ні прыкра пра гэта гаварыць, але наша колішняя грамадска-палітычная сістэма далёка не заўсёды была справядлівай у ацэнцы творцаў. Ды лепш шчыра сказаць — часта была несправядлівай, яе ласку і шчодрасць зведвалі не самыя вартыя. Асабліва абдзелены былі тыя, хто шчыраваў дзеля росквіту роднай, нацыянальнай нівы. Прыклад? Той жа Алесь Лявончык. Больш за трыццаць гадоў канцэртнай і выкладчыцкай дзейнасці, больш за трыццаць гадоў нястомнай прапаганды цымбалаў і, само сабой зразумела, найперш беларускай народнай і прафесійнай музыкі, сусветнае, можна сказаць, прызнанне, а — ні званняў ганаровых, ні ўзнагарод. Алесь Дзмітрыевіч, вядома, на гэта не зважае, ён і без гэтага артыст сапраўдны, артыст у самым высокім значэнні гэтага слова, аднак жа — прыкра ўсё гэта.

А цымбалы ягоныя звіняць, спяваюць і плачуць, дзеляцца радасцю і спавядаюцца перад людзьмі ў смутку. І будуць звінець доўга-доўга, вечна, як вечны народ, што спарадзіў іх. Ад бацькі пераймае, пераняў ужо, можна сказаць, эстафету сын, а там, дасць Бог, і ўнук. І будуць спяваць цымбалы. Нашы цымбалы. «Не цымбалы, а, — як пісаў паэт,— дзіва... А дзіва! Цаны ім няма!»

**М. ВІЧ.**



НА ПАВАРОЦЕ

# САЮЗ СУВЕРЭННЫ. РЭСПУБЛІКІ СВАБОДНЫЯ?

**Пакуль Вялікая Русь упершыню выбірала прэзідэнта, ВС БССР упершыню спрабаваў разабрацца ў тым, што ж яна «сплотила навеки».**

**Абмеркаванне праекта новага Саюзнага дагавору, якое доўжылася два дні, нагадвала — таксама, бадай, упершыню — сапраўдныя парламенцкія слуханні, дэбаты. Многім, вядома, па-ранейшаму карцела як мага хутчэй націснуць кнопкі; што і казаць, значна больш прадстаўнічым мог бы быць кворум (чамусьці асабліва зеўраў пустымі крэсламі чацвёрты сектар),— але, нягледзячы на гэта, у нашым Вярхоўным Савеце нарэшце адбылася доўгачаканая і найперш, думаецца, самім дэпутатам неабходная агульнапалітычная дыскусія. Яна дазволіла ўдакладніць расстаноўку сіл, трэба сказаць, не безнадзейна застылую, а таксама зрабіць сякія-такія прагнозы.**

**Так, апазіцыя стаяла на сваім, але ў тоне адчувальна паменела ваяўнічасці. Меншасць, падалося, імкнулася быць зразуметай. І нават калі яе довады ўсё роўна не ўспрымаліся, яна хутчэй ушчувала апанентаў, а не старалася іх «уесці»... Ды найбольш цікавыя зрухі, на мой погляд, намеціліся сярод парламенцкай большасці, якая гэтым разам не выглядала непрабіваема маналітнай, нягледзячы на пастаянную прысутнасць ва ўрадавым сектары залы пасяджэнняў ВС першага сакратара ЦК КПБ А. Малафеева. Няхай яшчэ не пад час галасавання, па-ранейшаму «правільнага», а ў дыскусіях,—але ўсё-такі спакваля адбываецца расшчапленне адзінай ідэалагічнай устаноўкі, выяўляецца розначасць думак і адценняў, на першы план пачынае выходзіць здаровы прагматызм. Хто ведае, магчыма яшчэ крыху, і «крок налева» не будзе тут лічыцца «ўцёкам»?..**

**А цяпер — ад «маленькіх радасцей» нашага гадавалага парламентарызму да вынікаў той спробы вяршыць «вялікую палітыку», якую здзяйсняў Вярхоўны Савет рэспублікі на гэтым тыдні. Яны, гэтыя вынікі, больш чым сціплыя. У прынятай пастанове ўхвалены асноўныя палажэнні праекта Дагавору аб Саюзе Суверэнных Рэспублік,— пасля таго, як двухдзённая дыскусія па сутнасці каменя на камені не пакінула ад тых «асноўных палажэнняў». Ці, ва ўсялякім разе, выявіла досыць шырокі спектр поглядаў на дзяржаўна-палітычнае ўпарадкаванне шостай часткі зямной сушы і беларускае «месца пад сонцам». Два дні на трыбуну сесіі па чарзе ўзыходзілі адэпты непарушнасці савецка-сацыялістычных каштоўнасцей, абнаўленцы-федэралісты, памяркоўныя суверэнітэтчыкі, прыхільнікі канфедэратыўнай будовы кшталту ЕЭС... У нейкі момант пачало здавацца, што думкі, выказаныя чатырма дзесяткамі прамоўцаў, адпаведным чынам узгодненыя, могуць легчы ў аснову беларускай канцэпцыі Саюза. Не, усё завяршылася кароткай сутычкай над пунктамі пастановы. Сярод вынікаў прамежкавых галасаванняў увагі заслугоўваюць тыя факты, што 146 дэпутатаў выказаліся за захаванне ў назве дзяржавы слова «сацыялістычны» і што 146 галасоў было пададзена за скліканне напярэдадні падпісання канчатковага тэксту Дагавору надзвычайнай сесіі рэспубліканскага парламента (кворум для прыняцця рашэнняў — 173).**

**У тым, што перамагла федэралісцкая канцэпцыя Саюзнага дагавору, няма нічога дзіўнага. Гэтыя настроі сёння аб'ектыўна пануюць і ў грамадстве. Не выступала супраць Саюза і апазіцыя, хоць яе ў чарговы раз кляймілі за «сепаратызм» і «развал краіны». Прыкра тое, што ў Вярхоўным Савеце Беларусі па-ранейшаму гучаць выразы тыпу «суверэнітэтная эйфарыя», а адзін з дэпутатаў, праваслаўны святар, і ўвогуле прапанаваў не ўжываць у выступленнях слова «суверэнны». Прыкра і тое, што замест сур'ёзнай размовы ў ход зноў пускаюцца ідэалагічныя бразготкі. Бюро ЦК КПБ днямі заявіла, што знікненне прыметніка «сацыялістычны» ў назве будучай федэрацыі выклікала «шматлікія водгукі ў партыйныя, савецкія органы рэспублікі, у якіх камуністы, большасць працоўных Беларусі выказваюць сваё гнеўнае абурэнне і рашучы пратэст». Я, грэшны, думаў, што абурэнне, пратэст, нават адчай у людзей выклікаюць далейшае зніжэнне жыццёвага ўзроўню, бяздарнасць кіраўніцтва, няздатнага прадухіліць катастрофу.**

**Навязванне грамадству апрыкрай спрэчкі наконт ідэалагічных «лятаючых талерак» прымушае ўсумніцца ў шчырасці і сур'ёзнасці захадаў па «абнаўленні» федэрацыі. Шосты год краіна то тут, то там падрываецца на мінах запаволенага дзеяння, а тым часам і пад жыццё наступных пакаленняў падводзяцца новыя небяспечныя зарады.**

**Імкненне народаў і кожнага «суб'екта» людской супольнасці да вольнага і годнага жыцця — вось што вызначае сёння развіццё падзей, вектар сілы ўсіх грамадска-палітычных працэсаў. Палітыка, якая не ўлічвае гэтых рэалій, асуджана на правал.**

**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**

# З заявы

## каардынацыйнае Рады беларускіх згуртаванняў і арганізацый у Летуве

**22 траўня ў Масцішках адбыўся з'езд дэпутатаў усіх узроўняў Віленшчыны. З'езд абмеркаваў і зацвердзіў статут Віленскага нацыянальна-тэрытарыяльнага краю. Па сутнасці гэта быў польскі з'езд, які выказаўся за ператварэнне Віленшчыны ў польскую адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку з польскім соймам, мовай, грамадзянствам, сцягам, гімнам і інш. Інтарэсы і будучыня аўтахтоннага (этнічнага) беларускага насельніцтва краю на з'ездзе былі цалкам праігнараваныя, калі не лічыць выказвання пра тое, што «супраць палякаў нарастае беларуская сіла».**

**Беларусы не супраць асобага статуса Віленскага краю ў складзе вольнай Летувы. Але як для летувіса гэты край летувіскі, для паляка — польскі, таксама і для беларуса Віленскі край — беларускі. Беларусы за раўнапраўнасць нацыі, а не за тое, каб адну афіцыйную большасць змяніла іншая, каб адна нацыянальная супольнасць была надзелена большымі правамі...**

**Мы за тое, каб не ствараць нейкую новую штучную сімволіку, а за тое, каб аднаўляць багатыя традыцыі Літоўскага княства. Калі мовы маюць быць прыроўненыя да дзяржаўнай, дык паміж іх мусіць быць і беларуская. Сойм мусіць быць кааліцыйным соймам нацыянальнасцяў — летувісаў, палякаў, беларусаў... А не соймам палякаў у Летуве...**

**Мы згодны з тым, што сёння «нарастае беларуская сіла». Але яна нарастае не супраць палякаў і не супраць польскай культуры, якую мы глыбока шануем. Мы разумеем гэта як непазбежную заканамернасць, узнікшую ў выніку парушэння нацыянальнай самасвядомасці, і як вяртанне да традыцый дэмакратызму і талерантнасці, якімі спрадвеку ганарыўся наш край.**

**Беларусы ніколі не праяўлялі шавінізму і агрэсіўнасці ў адносінах да суседніх народаў, не імкнуліся падпарадкаваць іх сабе.**

**Мы хочам толькі быць роўнымі між роўных. Не паддаваймася тым сілам, што сеюць між намі варажнечу і нязгоду. Мы заклікаем усе народы Летувы да ўзаемнай пашаны, згоды і культурнага супрацоўніцтва!**

**Таварыства беларускай культуры ў Летуве, клуб «Сябрына», суполка Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, рэдакцыя беларускіх тэле- і радыёперадач, аргкамітэт згуртавання беларускіх настаўнікаў.**

г. Вільня.

# СПРАВА НЕ Ў АЗДОБЕ...

Нядаўна прагучаў і быў пачуты заклік Генадзя Бураўкіна да мастакоў — падарыць свае творы беларускаму прадстаўніцтву пры ААН. Ва ўсякім разе да мяне, як да старшыні «Бацькаўшчыны», звярнуліся жывапісцы, згодныя ўдзельнічаць у гэтай высакароднай акцыі. Праўда, адзін з мастакоў прапанаваў спалучыць дабрачыннасць з камерцыяй: арганізаваць у ЗША з дапамогай белпрадстаўніцтва і беларускай эміграцыі выставу-продаж, частка карцін з якой была б адзычана прадстаўніцтву ў якасці дарунка.

Для мастакоў і для мяне асабіста, паколькі «Бацькаўшчыне» прапаноўвалася ўзяць арганізацыйныя абавязкі ў гэтай справе, было істотным высветліць, як гэта ўсё будзе рабіцца, якога зместу і фармату карціны патрэбны, дзе яны будуць захоўвацца і г. д.

Перамаўляюся па тэлефоне з Генадзем Мікалаевічам і, у прыватнасці, пытаюся пра магчымасці наладзіць выставу-продаж. Аказваецца, зрабіць гэта можна, хоць і няпроста — асабліва ў прэстыжных памяшканнях, дзе ўсё плануецца загадзя. Вельмі важна пры гэтым папярэдне наладзіць адпаведную рэкламу.

Беларускае прадстаўніцтва займае на адным з паверхаў вышыннага гмаху дзесяць пакояў, тры з якіх прызначаюцца для афіцыйных сустрэч, а рэшта мае побытавае прызначэнне. У кожным з тых трох пакояў ужо ёсць партрэты Францішка Скарыны, Янкі Купалы, Якуба Коласа, падораныя мастаком У. Стальмашонкам. Гэтага, безумоўна, мала, каб памяшканні выглядалі па-належнаму прадстаўніча. Ды справа, вядома, не толькі ў знешнім аздабленні, а ў тым, каб, гледзячы на беларускія пейзажы, на помнікі старажытнага дойлідства, на постаці славутых людзей зямлі беларускай, якія свята шанавалі яе традыцыі і годнасць,— і самі супрацоўнікі беларускага прадстаўніцтва, гаспадары гэтага дома, прасякаліся ідэяй нацыянальнага Адраджэння, усведамлялі сваё прызначэнне ў гэты надзвычай адказны момант у жыцці нацыі.

І яшчэ адзін момант хвалюе мяне: ці правільна мы зробім, забыўшыся на беларускую эміграцыю ў Злучаных Штатах Амерыкі, якая, не зважаючы на змены курсаў у афіцыйнай савецкай і амерыканскай палітыцы, жыла паводле сваіх нацыянальных традыцый, свята шанавала сваю беларускую годнасць, адпраўляла ў сваіх цэрквах богаслужэнне на роднай мове, выдавала на ёй газеты і кнігі, выяўляла ў мастацкіх творах дух народа. І хіба не было б сімвалічным, каб туды, за акіян, разам з творамі, прызначанымі для афіцыйнай установы, былі адпраўлены і палотны, ахвяраваныя для нашай эміграцыі? Яны маглі б упрыгожыць сцены велічнага палаца «Полацак», толькі што збудаванага на ўласныя сродкі беларусамі ў Кліўлендзе.

Вось такія мае развагі і прапановы. Спадзяюся, што яны зацікавяць нашых мастакоў. Тэлефанаваць можна ў «Бацькаўшчыну» (23-66-21) ці непасрэдна мне на кватэру (37-91-87).

**Яўген ЛЕЦКА,**
**старшыня Рады згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».**



# МЭБЛЯ ДЛЯ «КРУГЛАГА СТАЛА»

## На пытанні парламенцкага карэспандэнта «ЛіМа» адказвае народны дэпутат БССР Яўген НОВІКАЎ

**— Згадваючы падзеі 1981 года ў сваёй краіне, адзін з лідэраў «Салідарнасці», а цяпер дэпутат польскага Сейма Адам Міхнік сказаў: «Мы, дэмакраты, таксама былі вінаватыя ў наступленні дыктатуры. Мы павінны былі паспрабаваць дамовіцца з уладамі, ахвяраваць чымсьці, адмовіцца ад непрымірымасці. Ад гэтага лягчэй было б усяму народу». Як бы вы, Яўген Віктаравіч, пракаменціравалі гэтыя словы, вядома ж, у дачыненні да нашай сённяшняй сітуацыі?**

— Мне лёгка адказваць на гэтае пытанне, бо, выступаючы на пасяджэннях парламенцкай апазіцыі, я неаднаразова падкрэсліваў, што сёння нам, членам апазіцыі, трэба зрабіць усё магчымае дзеля таго, каб забяспечыць плаўны пераход ад старых структур, увогуле ад старых нашых уяўленняў, — да дэмакратычных інстытутаў. Ні ў якім разе не абвастраць сітуацыю! Наадварот, прыцішваючы яе, выйсці на эвалюцыйны шлях развіцця падзей. Зрабіць усё, каб не было рэвалюцыі. Бо там, дзе рэвалюцыя, — там заўсёды і контррэвалюцыя, там грамадзянская вайна, там кроў.

На жаль, камуністычная большасць у Вярхоўным Савеце ўсё ўспрымае зусім інакш, свядома абвастраючы сітуацыю. Законапраекты, вынесеныя на парадак дня гэтай сесіі, адназначна пра гэта сведчаць. Напрыклад, закон аб надзвычайным становішчы, прыняцце якога вядзе непасрэдна да ўзмацнення супрацьстаяння ў Вярхоўным Савеце і, адпаведна, ва ўсім грамадстве. Практычна адкрываецца шлях да дыктатуры — ці то ваеннай, ці то грамадзянскай, сутнасць не ў гэтым, а ў тым, што ва ўмовах няразвітасці нашых дэмакратычных інстытутаў дыктатуры немагчыма супрацьстаяць.

Альбо — закон аб прэзідэнцтве, які таксама рыхтуецца. Што і казаць, праблема актуальная, горача дыскутуецца. Пад лозунгам неабходнасці ўзмацнення выканаўчай улады камуністычная большасць спрабуе працягнуць і гэты законапраект. Але выбранне прэзідэнта Беларусі сёння, у цяперашніх эканамічных і палітычных умовах,— таксама прамы шлях да дыктатуры. Інакш быць не можа, калі ўлада будзе сканцэнтравана ў руках аднаго чалавека — што гэта будзе стаўленнік ЦК КПБ, мы, спадзяюся, выдатна разумеем,— без процівагі ў асобе Вярхоўнага Савета, без незалежнай судовай улады, без сапраўды свабоднага друку... Напружанне ў грамадстве будзе нарастаць, супрацьстаянне яшчэ больш узмоцніцца.

Вось чаму апазіцыя робіць усё магчымае, каб суцішыць гэтае супрацьстаянне. Днямі мы актыўна выступілі супраць законапраекта аб надзвычайным становішчы. У выніку нашых намаганняў ён, як вядома, не быў прыняты нават у першым чытанні. Давядзецца змагацца і супраць увядзення прэзідэнцкага праўлення.

Называючы рэчы сваімі імёнамі, нам пагражае спроба антыканстытуцыйнага, антыдзяржаўнага перавароту. Развязваецца чарговая хваля наступлення на нашы правы. Яшчэ адзін прыклад — праект закона аб пераразмеркаванні паўнамоцтваў паміж вышэйшымі дзяржаўнымі органамі. Прачытайце, фактычна ўлада ў асобе Савета Міністраў спрабуе прысабечыць нават судовыя паўнамоцтвы!

**— Яўген Віктаравіч, а ці няма ў вашых развагах пэўнай супярэчнасці? З аднаго боку, вы кажаце пра неабходнасць прыцішыць супрацьстаянне і ў грамадстве, і ў парламенце, — а з другога боку, напрыклад, дэбаты па законапраекце аб надзвычайным становішчы наўрад ці дадалі згоды дэпутацкаму корпусу. Дайшло да таго, што, характарызуючы выступленні апанентаў, дэпутат І. Каратчэня ўжыў, мякка кажучы, непарламенцкі выраз «маразм». У кожнага, вядома, свае ўяўленні наконт таго, што можна, а чаго нельга... Але я зараз не пра гэта, а пра тое, што, скажам, «заваліць» той ці іншы законапраект — яшчэ не значыць перамагчы. Асабліва маючы на ўвазе тое, што апанент другім разам абавязкова будзе імкнуцца ўзяць рэванш. І, можна не сумнявацца, возьме — усім вядома, колькі ў каго кнопак. Як тут быць з «плаўным пераходам»? Дарэчы, нядаўна фракцыя БНФ у Вярхоўным Савеце абвясціла, што бярэ на ўзбраенне тактыку жорсткай апазіцыі...**

— Так, мы пакінулі за сабою права галасаваць па тых законапраектах, якія лічым вызначальнымі, і не галасаваць па тых, якія прапануюцца партнаменклатурай. Безумоўна, мы будзем катэгарычна супраць увядзення прэзідэнцтва. Але супярэчнасці тут няма. Пытанне аб прэзідэнцтве — вызначальнае. Ад яго вырашэння залежыць, якім шляхам пойдзе наша грамадства. Рэвалюцыйным — альбо эвалюцыйным, праз канстытуцыйны працэс, умацаванне дэмакратычных інстытутаў, развіццё рынавых структур і толькі пасля — выбары «першага грамадзяніна» Беларусі. Вось чаму мы будзем у Вярхоўным Савеце рабіць усё магчымае, каб гэты законапраект сёння не прайшоў. Скажу больш, калі ён усё ж будзе прыняты, мы будзем вымушаны звярнуцца непасрэдна да народа Беларусі. Гэта ўжо абмяркоўвалася, не стану раскрываць тыя ці іншыя прыёмы нашай тактыкі... І менавіта таму, што мы выразна ўсведамляем усю адказнасць цяперашняга моманту; менавіта таму, што імкнёмся надаць развіццю падзей характар плаўнага пераходу.

**— Тое, што адбываецца на нашым «парламенцкім тэатры», у прыватнасці, драматычнае несупадзенне логікі, ладу мыслення апанентаў, мне часам хочацца вытлумачыць дзеяннем нейкіх законаў псіхалогіі...**

— Вы не маеце рацыі. Там, дзе стаяць пытанні эканомікі, псіхалогія адкідваецца на чацвёрты-пяты план. Ідзе выключна барацьба інтарэсаў— матэрыяльных. Калі яны пойдуць нам на ўступкі, яны павінны будуць саступіць народу — у тым, што тычыцца ўласнасці і, адпаведна, улады. Вось сэнс таго, што адбываецца.

**— У паветры лунае ідэя «круглага стала» прадстаўнікоў усіх партый, рухаў, палітычных плыней грамадства. У пэўным сэнсе можна казаць пра нараджэнне новага міфа — пра «круглы стол» як панацэю ад усіх хвароб, сацыяльных і эканамічных. І рэдка хто задумваецца над тым, якія «рыцары» збяруцца вакол гэтага «стала». Пагадзіцеся, ведаючы расстаноўку палітычных сіл у рэспубліцы, ведаючы, хто прадстаўляе тую ці іншую плынь, — цяжка сёння спадзявацца на «поспех гэтага безнадзейнага мерапрыемства». Ну збяруцца, ну нагавораць адно аднаму грубасцей, а далей?.. Хто павінен узяць на сябе місію падрыхтоўкі гэтага форуму? Якой будзе яго легітымнасць? Пры якіх умовах ён, на ваш погляд, увогуле можа адбыцца?**

— Сама па сабе ідэя «круглага стала» — добрая ідэя. Але дзеля яе ажыццяўлення неабходна, па-першае, лідэры, за спінамі якіх стаяць сур'ёзныя грамадска-палітычныя сілы, а, па-другое, у гэтых лідэраў павінна быць воля і жаданне палітычнымі сродкамі, а не сродкамі насілля вырашыць праблемы, у якіх загразла наша грамадства, прадухіліць магчымасць грамадзянскай вайны. Гэта — перадумовы «круглага стала».

Далей трэба вызначыць прынцыповыя моманты, вакол якіх можа адбыцца сапраўдная, а не ўяўная кансалідацыя сіл. Бо можна зрабіць выгляд, што я, напрыклад, гатовы супрацоўнічаць з ЦК КПБ, а ЦК КПБ зробіць выгляд, што ён мае намер супрацоўнічаць з БНФ. Гэта проста, але гэта фікцыя, якая выявіцца на працягу бліжэйшага тыдня.

Такіх прынцыповых момантаў, на маю думку, два. **Першы** — допуск прыватнай уласнасці, у тым ліку і на зямлю, ва ўмовах змешанай эканомікі. Менавіта ва ўмовах змешанай эканомікі, гэта трэба падкрэсліць, бо апазіцыя выступае за ўвядзенне прыватнай уласнасці, але прынцыпова супраць яе манапалізаванай формы. Свет даўно ўжо зразумеў, што манаполія адной формы ўласнасці вядзе да стагнацыі. **Другі момант** — гэта рэалізацыя Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР, наданне ёй канстытуцыйнага характару. Фактычна ж у Дэкларацыі гаворка ідзе пра тое, каб наша рэспубліка мела магчымасць весці самастойную палітыку. І ў ёй няма ані слова пра тое, што Беларусь спрабуе забяспечыць сабе эканамічную незалежнасць. Эканамічнай незалежнасці ўвогуле не існуе! Праз ажыццяўленне Дэкларацыі Беларусь імкнецца забяспечыць сабе як мага больш глыбокія ўзаемадачыненні з іншымі рэспублікамі і развітацца са становішчам фактычнага прыдатку Цэнтра. Сёння мы жывём ва ўмовах класічнай каланіяльнай імперыі — прыміце гэта не як прапагандысцкі лозунг, а як звычайную канстатацыю аб'ектыўнай сутнасці.

Сказанае — не толькі мае асабістыя думкі, іх падзяляюць мае калегі па апазіцыі. Мы выдатна разумеем, што супрацьстаянне набыло новую якасць. Сёння нам практычна не даюць выказацца: фільтруецца інфармацыя, спынена трансляцыя з пасяджэнняў сесіі... Але ж трэба нешта рабіць! Дык вось, сфармуляваныя мною прынцыповыя моманты — прыватная ўласнасць і суверэнізацыя — гэта тая аснова, на якой мы гатовы правесці «круглы стол» з усімі нашымі апанентамі.

Больш таго, карыстаючыся магчымасцямі гэтага інтэрв'ю, як адзін з каардынатараў Дэмакратычнага дэпутацкага клуба і член апазіцыі БНФ, я хацеў бы звярнуцца да нашых палітычных апанентаў. Сядзем за стол перагавораў! Разумею, што гэта не так проста, і таму найперш звяртаюся да радавых камуністаў, спадзеючыся, што яны нейкім чынам паўплываюць на сваіх лідэраў. Гэта, дарэчы, адзіны сродак ўратаваць кампартыю... Трэба адкінуць усялякія амбіцыі, пражэкты і надзеі на тое, што хтосьці нешта за нас зробіць. Ніхто і нічога! Вытворчасць будзе падаць, эканамічная сітуацыя будзе пагаршацца, інфляцыя будзе нарастаць... Палітычных апанентаў я прашу зрабіць усё магчымае, каб прадухіліць грамадзянскую вайну. Кожны з нас, спадзяюся, ужо зразумеў, што ў красавіку мы былі небяспечна блізка ад ракавой мяжы.

**— Такім чынам, дэпутаты дэмакратычнага блока гатовыя расставіць мэблю вакол «круглага стала»?**

— Так. Пры ўмове, што канструктыўная гутарка будзе весціся па гэтых двух ключавых пытаннях. Я вылучыў менавіта іх таму, што прыватная ўласнасць ва ўмовах змешанай эканомікі забяспечвае **суверэнітэт асобы**, а рэалізацыя на практыцы прынцыпаў нашай Дэкларацыі гарантуе **суверэнітэт нацыі**, адраджэнне яе самасвядомасці, годнасці, культуры, духоўнасці — усяго комплексу нацыянальных каштоўнасцей.

Сёння трэба канчаткова ўсвядоміць —усе мы з'яўляемся адной нацыяй. Няма нічога больш прымітыўнага ў палітыцы, чым зрабіць так, каб чалавек пайшоў на чалавека. Два-тры танныя папулісцкія лозунгі — і ўсё... Хачу, каб гэта нас абмінула.

**— Дзякуй за інтэрв'ю. Хочацца спадзявацца, што выказаныя вамі думкі будуць мець розгалас.**

**Вёў гутарку**
**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**

# КОНКУРС ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Міністэрства культуры БССР, Дзяржбуд БССР, Мінскі гарвыканком, Саюз архітэктараў БССР, Саюз мастакоў БССР, Беларускае аддзяленне Савецкага фонду культуры абвясцілі другі закрыты тур рэспубліканскага конкурсу на стварэнне лепшага праекта помніка ахвярам масавых рэпрэсій 1937 — 1941 гг. у Курапатах.

Конкурс праводзіцца з 20 мая 1991 па 1 красавіка 1992 г. Яго ўдзельнікамі, у першую чаргу, з'яўляюцца аўтары праектаў, якія ўдзельнічалі ў першым туры конкурсу і адзначаны журы прэміямі. Аднак у творчым спаборніцтве могуць прыняць удзел таксама іншыя аўтары з сустрэчнымі прапановамі.

Пры распрацоўцы праекта неабходна ўлічваць тое, што ў час абмеркавання праектаў першага тура грамадскасць і журы выказалі пажаданне, падтрыманае арганізатарамі конкурсу, аб тым, каб у Курапатах былі пабудаваны:

— брама з адпаведнай агароджай тэрыторыі могілак;

— капліца, якая павінна стаць месцам ушанавання ахвяраў сталінізму;

— архітэктурна-пластычны элемент з тэкстам звароту.

Разам з тым арганізатары конкурсу не абмяжоўваюць яго ўдзельнікаў названай праграмай.

Конкурсныя матэрыялы падаюцца журы ў наступным аб'ёме:

— генплан з добраўпарадкаваннем тэрыторыі (М 1:1000) у межах, адзначаных на прыкладваемай сітуацыйнай схеме;

— фрагмент (фрагменты) генплана ў маштабе 1:500;

— пландровачны макет у М 1:20;

— фотамантаж панарам з асноўных пунктаў успрымання помніка;

— планы, фасады, разрэзы (пры неабходнасці) у М 1:20;

— тлумачальная запіска (у 2-х экз.).

Дэманстрацыйныя матэрыялы выконваюцца ў чорна-белай графіцы на падрамніках памерам 100×100.

У мэтах шырокага абмеркавання спецыялістамі і грамадскасцю конкурсных праектаў прадугледжваецца арганізаваць іх выстаўку.

За лепшы праект прадугледжваецца адна прэмія ў суме 4,5 тыс. рублёў. Аўтару праекта, які атрымаў прэмію, даецца магчымасць рэалізаваць сваю прапанову.

У выпадку, калі сустрэчнаму праекту будзе прысуджана прэмія, яго аўтарам выплачваецца ганарар у той суме, на якую заключаюцца дагаворы з удзельнікамі закрытага конкурсу, разам з тым ім прадастаўляецца права на рэалізацыю гэтага праекта.

Прэміяваныя праекты з'яўляюцца ўласнасцю Міністэрства культуры, непрэміяваныя могуць быць запатрабаваны іх аўтарамі на працягу аднаго месяца з дня апублікавання рашэння журы па выніках конкурсу. Пасля гэтага тэрміну праекты знішчаюцца з адначасовым афармленнем адпаведнага пратакола.

За тлумачэннем па пытаннях умоў конкурсу і атрыманне геападасновы яго ўдзельнікі звяртаюцца да сакратара журы па адрасе: 220050, г. Мінск, вул. Савецкая, 19, Галоўмінскархітэктура, Чаравікаў Ігар Сяргеевіч, тэл. 20-54-87.

# АЧУНЬВАЕМСЯ АД БЯСПАМЯЦТВА

## На Віцебшчыне прайшоў семінар творчай інтэлігенцыі



Сваю пазіцыю аргументуе першы сакратар Віцебскага абкома партыі У. Грыгор'еў.

Раней падобныя мерапрыемствы былі ў пашане. Асабліва, калі Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі ўзначальваў Пётр Міронавіч Машэраў. Прадстаўнікі ўсіх творчых саюзаў рэспублікі лічылі за гонар атрымаць запрашэнне на такія семінары. Усё рабілася з размахам, нават з пэўнай пампезнасцю, але і першае, і другое, дайце веры, не перашкаджала дзелавой атмасферы. Паказвалі сапраўды лепшае, створанае дзякуючы працы калектываў, дзе, насуперак адміністрацыйным указанням і дыктату, квітнела ініцыятыва, давала плённыя парасткі жыццятворная энергія народа.

Цяпер жа, на добры лад, мо і ехаць не трэба было б. Можна было б пайсці з ранку на плошчу ля Дома ўрада, пацерціся сярод штатных яе наведвальнікаў, пагутарыць з прадстаўніком якой-небудзь новай партыі, а пасля, для арыенціроўкі пагартаўшы старонкі «Комсомольской правды», «Коммерсанта», «Известий» (барані божа, не «Правды» і не «Литературной газеты», якая, сказаць па-праўдзе, ужо здае сваю напорыстую «рэвалюцыйнасць»), напісаць што-небудзь архісучаснае, абавязкова з высновай, што праклятая партакратыя душыць усіх і кожнага.

Канечне, можна было б зрабіць і так. І ўсё ж... Падмінае пад колы дарогу імклівы «Ікарус», і ўдзельнікі семінара творчай інтэлігенцыі кіруюцца на Віцебшчыну. У салоне не шмат знакамітасцяў, ды і запоўнены ён недзе толькі ці не на палову. Цяпер, паўтаруся, не раней, калі такія паездкі збіралі шмат класікаў і кандыдатаў у класікі, каб пацерціся сярод партыйнага начальства, патрэбныя кантакты наладзіць, каб праз нейкі час ордэн ці прэмію схапіць, ганаровае званне атрымаць. Цяпер жа — паедзеш, дык з чыёй-небудзь лёгкай рукі ў разрад кансерватараў трапіш ці песняром партыі праслывеш.

Такая ісціна, і з ёй неабходна лічыцца, яна дыктату не церпіць. А рэаліі пакуль што не на карысць такіх мерапрыемстваў. Сёння шмат ахвочых усё адмаўляць. Цалкам, безагаворачна.

Праўда, прадбачу і пярэчанні. Прыкладна такога плану: семінар праводзіць кампартыя, а калі іншыя партыі пачнуць рабіць тое ж? У сваю чаргу гатовы запытацца: «А хіба гэта кепска будзе?» Калі, скажам, тая ж сялянская партыя возьмецца ды і арганізуе паездку, каб пазнаёміцца з вопытам работы лепшых фермерскіх гаспадарак рэспублікі? А «грамадоўцы» прапануюць завітаць у раён, у якім найлепш, чым у іншых, дбаюць аб нацыянальным Адраджэнні, клапоцяцца аб захаванні помнікаў гісторыі і культуры? Мяркую, такія «мерапрыемствы» зацікавяць і беспартыйных, і камуністаў. Галоўнае ж, каб пасля паездак заставалася адчуванне, што гэта не проста было «время препровождение», а карысць, пры тым агульная...

Таму і паспрабуем зірнуць на згаданы семінар менавіта з пункту гледжання яго карыснасці, патрэбнасці, неабходнасці. Выкажу, безумоўна, асабістую думку, свае суб'ектыўныя меркаванні, як, скажам, такі факт. Многім, ці не пераважнай большасці ўдзельнікаў спадабаўся другі дзень. Згодзен, праграма яго, калі прытрымлівацца гэтага тэрміну, сапраўды была насычанай. Ды і ці можа пакінуць абыякавым каго-небудзь (калі ён не манкурт, не нацыянальны нігіліст) знаёмства з Полацкам, яго унікальнымі гістарычнымі і культурнымі помнікамі? Гэта ж само дыханне мінуўшчыны, якая адначасова прымушае лепей задумацца і над днём сённяшнім.

А наведванне музея народнай славы ва Ушачах, знакамітага мемарыяльнага комплексу «Прарыў», што знаходзіцца непадалёку? Былі, праўда, меркаванні, што ў музеі ўвага аддадзена найперш мінулай вайне, а пра іншыя гістарычныя перыяды з жыцця тутэйшых мясцін гаворыцца мімаходзь. Наведалі мы і хату-музей народнага паэта Беларусі Петруся Броўкі ў Пуцілкавічах. Вядома, кожны мае права па-свойму ацэньваць яго творчасць, але талент П. Броўкі варты ўсё ж пашаны. Гэтаксама нельга не схіліць галаву перад мужнасцю паэтавай маці, якая выратавала сваю аднавяскоўку, маладую жанчыну, пайшоўшы замест яе ў крэматорый.

Ды семінар усё ж не экскурсія, нават калі яна з самымі лепшымі намерамі. Семінар — гэта абмен думкамі, поглядамі, вопытам. І арганізатары рабілі дзеля гэтага ўсё. На жаль, часам ажыццяўленню намераў перашкаджаў выпадак. Так, у калгасе імя Суворава Пастаўскага раёна не давялося сустрэцца са старшынёй—Валадзько падаўся ў Маскву. І там, за тысячы кіламетраў ад сваіх Навасёлак, дбаў ён аб калектыўных справах. З'явілася ў старшыні чарговая задумка — стварыць свой калгасны каўбасны цэх, вось і паехаў «выбіваць» абсталяванне.

Паглядзець жа ў калгасе Суворава ёсць што! Цудоўная паліклініка з бальніцай (не ў кожным раённым цэнтры такая ёсць), гасцініца, музычная школа, будуецца спартыўны комплекс. Нарэшце — свае самалёты, з дапамогай якіх жадаючыя могуць займацца парашутным спортам. Змены ў жыцці вёскі — уражваюць. І разам з тым было нейкае адчуванне, што сёе-тое, хай і з добрымі намерамі, робіцца і дзеля таго, каб лепей выглядаць на фоне іншых. Інакш чым растлумачыць, што калгасная бібліятэка знаходзіцца ў непрыстасаваным памяшканні? Міжволі ўзнікае думка аб прыярытэце тут хлеба матэрыяльнага. Але, трэба быць справядлівым, Валадзько пра духоўнасць памятае пастаянна. І выпадак з бібліятэкай—выключэнне, хоць і прыкрае. Не пашкадаваў старшыня ажно чатырох мільёнаў рублёў на рэстаўрацыю унікальнага помніка архітэктуры XVIII стагоддзя — так званага касцёла Тадэвуша. Не верыцца проста, што яшчэ колькі гадоў назад тут быў звычайны склад. Касцёл вяртаецца вернікам. Хацелі было зрабіць у ім канцэртную залу, як у вядомай Сафійцы ў Полацку, ды час іншы прыспеў. Але ж, падумаўшы, у гэтай прасторнай будыніне хапіла б месца для задавальнення духоўных патрэб і вернікам, і атэістам...

Поруч жа такое, у што і верыць не хочацца. Клопат аб духоўнасці і, як бы мякчэй сказаць, забыццё ці што самай што ні ёсць вечнай аксіёмы: духоўнасць моцная толькі нацыянальнымі каранямі. Калгас імя Суворава ўсё пашыраецца, нядаўна да яго далучылі саўгас «Пастаўскі». Пашыраецца, а назва застаецца нязменнай. Без Суворава чамусьці ніяк нельга. А чаму б вяскоўцам не сабрацца разам, параіцца і не назваць калгас імем... Уладзіміра Дубоўкі?

Яго родныя Агароднікі — зусім блізка. Ды толькі дзеля гэтага трэба, каб людзі адчувалі сябе беларусамі. На жаль, вельмі часта ў нас чалавека не адпускаюць лейцы «звышінтэрнацыянальнасці». Зацуглялі аднойчы і трымаюць, хоць ты крычы. Напрыклад, выступаў перад удзельнікамі семінара першы сакратар Пастаўскага райкома партыі, ён жа старшыня раённага Савета народных дэпутатаў, у дадатак яшчэ і народны дэпутат БССР В. Чэпік. Васіль Васільевіч — чалавек дасведчаны, добры спецыяліст, але ж так і не загаварыў з творчай інтэлігенцыяй роднаю моваю. На жаль, часам сапраўды на розных мовах гавораць партыя і народ. Тым не менш не трэба кідацца і ў крайнасці. Скажам, патрабаваць ад партыі таго, што ад яе не залежыць. Выказваліся, скажам, у час семінара, пры тым неаднойчы, такія меркаванні: у тым, што «Народная газета» выдаецца на дзвюх мовах, а не на адной беларускай, вінаваты сакратар ЦК КПБ А. Русецкі. Але ж гэта газета Вярхоўнага Савета БССР. З аднаго боку, аказваецца, радуемся адмене вядомага шостага артыкула, з другога, калі што— партыя павінна ўмяшацца.

І яшчэ. Наша рэспубліка не гатова да поўнага пераходу на рэйкі фермерства. Рана нам развітвацца з калгасамі і саўгасамі. Той жа В. Чэпік роднай мовы не ведае, ведае гаспадарчае становішча ў раёне. Усяго сем чалавек на Пастаўшчыне згадзіліся ўзяць зямлю! Прычына? За семдзесят гадоў адлучылі іх ад зямлі? Вядома! Але, каб быць фермерам, неабходна мець пад рукой і адпаведную тэхніку, і насенны матэрыял, і трэба працаваць, працаваць і яшчэ раз працаваць. І не магу не пагадзіцца з В. Чэпікам: пра што толькі мы ні гаворым на сесіях Вярхоўнага Савета (і саюзнага, і рэспубліканскага), але толькі не пра вытворчасць, не пра тое, што неабходна перш-наперш працаваць, каб нечага дасягнуць. Фермерам станеш — гадзінамі ля тэлевізара праседжваць не будзеш!

Між тым, відавочна, што толькі пры ўмове розных форм гаспадарання на зямлі можна дасягнуць жаданых поспехаў. На Пастаўшчыне гэтым і кіруюцца. Ніхто тут нікога не нявоўліць і ніхто нікому сваёй думкі не навязвае. Захацелі ў калгасе «Сцяг камунізму» — падзялілі гаспадарку паміж трынаццаццю кааператывамі. З'яўляецца чарговая заява ад каго-небудзь з вяскоўцаў у той ці іншай вёсцы — калі ласка, станавіся фермерам. Хочаш абжываць закінуты хутар — таксама ніякага пярэчання.

Бяда, аднак, у тым, што хутаранамі людзі часам становяцца і не па сваёй волі. Пастаўшчына мяжуе з Літвой, раней многія выязджалі туды на пастаяннае жыхарства. У Літве заробкі і арганізацыя працы былі куды лепшыя, чым у нас. Аднак многія і многія беларусы пасля літоўскага варыянту «перабудовы» кінуліся назад. Нават на хутарах гатовы жыць, толькі б не ў Літве, дзе іх лічаць людзьмі другога гатунку.

На цяперашнім этапе (праўда, пасля паездкі ўжо з'явіўся адпаведны прэзідэнцкі ўказ, хаця з усімі гэтымі ўказамі мы даўно звыкліся, пасля іх не заўсёды прымаюць канкрэтныя захады) палкі ў колы фермерства (як і ўсёй сельскай гаспадаркі) ставіць неабдуманае, неабгрунтаванае ніякімі эканамічнымі законамі павышэнне цэн не толькі на тавары першай неабходнасці, а і на сыравіну, тэхніку і г. д. Нават асобныя рэнтабельныя гаспадаркі апыньваюцца ў становішчы жабракоў.

...Пытанні нацыянальнага Адраджэння, сучаснага гаспадарання на зямлі востра сталі ў час гаворкі, якая адбылася на тэрыторыі Бярэзінскага заказніка. Да мінчан там далучыліся ўдзельнікі семінара творчай інтэлігенцыі Віцебшчыны. Большасць выступленняў насілі канструктыўны характар. Гучала трывога аб лёсе нашай мовы, культуры, нацыі. Выказваўся непакой, што масавая культура гатова паглынуць усё нацыянальнае...

Сёння усе мы прачынаемся ад доўгага летаргічнага сну, пакрысе ачуньваем ад хваробы, што завецца нацыянальным нігілізмам. Думаецца, што адной з прыкмет гэтага ачуньвання стаў і семінар, арганізаваны гуманітарным аддзелам ЦК КПБ, у якім прынялі ўдзел першы сакратар Віцебскага абкома партыі У. Грыгор'еў, сакратар Віцебскага абкома І. Навумчык, кансультант гуманітарнага аддзела ЦК КПБ Г. Пашкоў.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Уладзімір КРУК (фота),**
**спецыяльныя карэспандэнты «ЛіМа».**



Анатоль Сульянаў і Алесь Жук ля мемарыяльнага комплексу «Прарыў».



Ля хаты-музея Петруся Броўкі.

# ЧАС ПАРАЗУМЕННЯ

## Нататкі з кангрэса беларусістаў



Вобраз мяжы, якая не раз'ядноўвае, а злучае людзей, ужыты прафесарам Джымам Дзінглі, бадай што, найбольш трапна вызначыў галоўны сэнс творчых пошукаў на першым Міжнародным кангрэсе беларусістаў у Мінску. Аргкамітэту пад кіраўніцтвам прафесара А. Мальдзіса спатрэбіўся год, каб падрыхтаваць агульнанацыянальны інтэлектуальны форум. Да падрыхтоўкі спрычыніліся АН БССР, Міністэрства культуры БССР, Саюз пісьменнікаў Беларусі, Рэспубліканская асацыяцыя беларусістаў. Яго чакалі як даследчыкі беларусікі болей чым з 13 краін свету, у тым ліку савецкіх рэспублік, ЗША, Англіі, Індыі, Японіі, Германіі, Польшчы і інш., так і рупліўцы адраджэння «маўклівага этнасу» па розныя бакі мяжы.

Для апошніх з кангрэсам была звязана надзея на паразуменне пасля больш чым 73-гадовага ўзаемаадмаўлення, пасобкавага існавання абапал, здавалася б, непераадольнай ідэалагічнай «сцяны». Упершыню змаглі сустрэцца за адным сталом з айчыннымі пісьменнікамі і даследчыкамі знаныя дзеячы эміграцыі Янка Запруднік — рэдактар газеты «Беларус» і Вітаўт Кіпель — дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва (Нью-Йорк). Абодва — актыўныя аўтары беларускай перадачы радыё «Свабода».

Акрамя таго, падзея выклікала зацікаўленне і ў палітычных дзеячаў: як прадстаўнікоў Вярхоўнага Савета, так і прыхільнікаў самастойных плыняў, у першую чаргу Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады і БНФ «Адраджэнне».

Таму, як бачна, скліканне кангрэса падштурхоўвалі і даследчыцкія інтарэсы, і агульная прага аб'яднаць нацыянальны інтэлект, раскіданы па ўсім свеце. Адкрыццё форума і першае пленарнае пасяджэнне ў Доме літаратара 25 мая засведчылі, што кангрэс будзе рухацца менавіта пад дамінацыяй агульнанацыянальнага «збіральніцкага» кантэксту.

## «Мець мужнасць займацца беларусікай...»

Ва ўступным слове старшыня аргкамітэта А. Мальдзіс адзначыў, што ініцыятары стварэння МАБ і правядзення кангрэса бачаць іх місію перш за ўсё ў пашырэнні беларускай культуры ва ўсім свеце, паяднанні Беларусі і эміграцыі, адраджэнні беларускай нацыянальнай духоўнасці. «Пакліканне да жыцця МАБа напаўняе нас надзеяй, што Беларусь жыве і жыць будзе»,— гаварыў А. Мальдзіс.

Выступленне першага намесніка Старшыні ВС БССР С. Шушкевіча прагучала менш аптымістычна. Прывітаўшы ўдзельнікаў, ён заклікаў іх «не абражацца, што сітуацыя стала такой». У чым заганнасць сітуацыі? Адказ на гэта пытанне даў Васіль Быкаў (тэкст выступлення змешчаны асобна). Галоўным няшчасцем нацыі, на яго думку, з'яўляецца адсутнасць дагэтуль у Беларусі дзяржаўнага суверэнітэту — асноўнага фактару ў стварэнні нацыянальна-самастойнага менталітэту. Рух да суверэннай беларускай дзяржавы падменены «гаманкой імітацыяй рэфармізму» і сацыялістычнай дэмагогіяй, — канстатаваў пісьменнік. Тым большая адказнасць па згуртаванні беларускай дыяспары кладзецца ў такіх варунках на ашчаднікаў нацыянальнай існасці, якімі з'яўляюцца ўдзельнікі кангрэса.

Гэтую думку падтрымалі прэзідэнт АН БССР У. Платонаў, які вітаў кангрэс, і старшыня Камісіі ВС БССР па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны прафесар Н. Гілевіч, чый даклад «Каб не ўмёрлі...» прагучаў у рамках пленарнага пасяджэння.

**З даклада Н. Гілевіча: «Мы шчыра ўдзячныя нашым сябрам за іх любоў і клопат—тым больш удзячныя, што яны багата ведаюць... аб трагічным лёсе народа, з якім звязалі свае навуковыя і творчыя інтарэсы. Мушу наўмысна падкрэсліць гэты момант—наконт нашай асаблівай удзячнасці—таму, што прадмет іх даследчыцкай або мастакоўскай дзейнасці—нявыйгрышны, невыгодны.**

**Трэба мець мужнасць, каб займацца народам і яго духоўнай культурай, яго мовай, калі гэтаму народу, пачаўшы колькі стагоддзяў назад і да гэтага часу, і сёння адмаўляюць у праве на самастойнае існаванне, прарочаць страту свайго ўласнага аблічча і не абяцаюць ніякай гістарычнай перспектывы.**

**...Мы хочам, каб усе нашы сябры, беларусісты з іншых краін... праніклiся нашай верай, нашым энтузіязмам. ...Беларусь уступае ў новую паласу свайго гістарычнага развіцця,— гэта неадменны факт, усведамленне якога, не сумняваюся, хутка стане ўсенародным тут, у самой рэспубліцы, і ўсеагульным у свеце».**



У час пленарнага пасяджэння.



Джым Дзінглі — жаданы субяседнік.

## «Мяжа як злучэнне»

Без традыцыйных «нашых» сантыментаў пачаў свой даклад «Замежны погляд на сучасную беларусістыку» прафесар Лонданскага універсітэта Дж. Дзінглі — старшыня англа-беларускага таварыства. Яго імпэтная, напружаная прамова, прагматычны падыход да арганізацыі МАБа пэўна дысцыплінавалі і нашых даследчыкаў. Выкарыстаны Дзінглі вобраз мяжы, як злучэння, а не раз'яднання, паслужыў агульнай парадыгмай для працы кангрэса: яго выкарыстоўвалі і дапаўнялі сваім бачаннем шмат якія даследчыкі.

**«Мы сапраўды падзелены межамі, — казаў Дж. Дзінглі,—але ў свеце не бывае абсалютна непераадольных межаў, нават дзяржаўных. Можа, самая драматычная мяжа праходзіць праз нашы сэрцы, праз нас саміх. Таму трэба мець іх (межы) такімі, каб яны нас трывала лучылі, служылі злучэннем нашых памкненняў. ...Літаратура, у якой таксама існуе мяжа «наш—не наш», застанецца на ўзроўні пошукаў здраднікаў, але ніколі не падымецца да ўзроўню мастацтва». Канкрэтныя ўплывы «мяжы», на думку Дж. Дзінглі, адчуваюцца ў выдадзенай анталогіі заходнебеларускай паэзіі «Ростані волі», дзе, напрыклад, творчасць Наталлі Арсеньевай «выпукляецца сваёй адсутнасцю» і г. д.**

Дж. Дзінглі запрапанаваў удзельнікам кангрэса паразважаць над тым, як напісаць цэласную гісторыю беларускага літаратурнага працэсу. «Стварэнне ж МАБа сімвалізуе пачатак пераадолення межаў у беларусазнаўстве і ўвогуле межаў, якімі быў гістарычна пакроены этнас»,—гаварыў даследчык.

Затым прагучалі даклады аб сучаснай польскай беларусістыцы (А. Барскі), беларусістыцы на Украіне (Р. Піўтарак), у Амерыцы (Т. Бэрд) і г. д.

## «Лёс этнаса вырашаецца на Радзіме...»

Высветліць актуаліі сучаснай беларусістыкі і зафіксаваць іх у матэрыялах кангрэса павінны былі тры секцыі, якія працавалі 25 і 27 мая ў Доме літаратара. Першая — «Гісторыя і культура» (кіраўнікі Ю. Туронак (Польшча), Л. Ціханаў (Беларусь), сакратар Г. Сагановіч), другая — «Мовазнаўства» (кіраўнік К. Гутшміт (Германія), Г. Цыхун (Беларусь), сакратар С. Санько), трэцяя — «Літаратура, мастацкі пераклад і фальклор» (кіраўнікі А. Барскі (Польшча), М. Мушынскі (Беларусь), сакратар І. Саверчанка).

Наведаўшы пасяджэнні секцый, можна было адчуць і зразумець, што на іх выступаюць даследчыкі, якім добра вядомы навуковыя інтарэсы і здабыткі калег і якія добра разумеюць адзін другога. Можа, таму праца секцый нагадвала чарговы абмен думкамі, у якім удзельнічаюць хаўруснікі, зрабіўшыя ўсю чарнавую працу дома, і прыехаўшыя з тэкстамі сваіх работ, каб выдаць кнігу, а надоечы—коратка прэзентаваць змест навуковых досведаў.

У працы секцыі «Гісторыя і культура» прынялі ўдзел такія вядомыя даследчыкі, як У. Конан, М. Іваноў (Вроцлаў), М. Ермаловіч, А. Каўка (Масква), Л. Ціханаў, Ю. Хадыка, З. Нядзеля (Кракаў), Ю. Туронак (Варшава), А. Пяткевіч і іншыя. Заслуга кіраўнікоў секцыі — распрацоўка разнастайнай тэматыкі выступленняў. У вялікай зале Дома літаратара прагучалі даклады філосафаў, гісторыкаў, этнографаў і культуролагаў, кожны з якіх пэўным чынам улічваў філасофска-адраджэнцкі кантэкст, які «навязаў» калегам выступіўшы першым доктар У. Конан. У досведзе тыпалогіі нацыянальнага адраджэння філосаф асабліва падкрэсліў супярэчлівасць яго сучаснага этапу, калі «адраджэнцкі рух сутыкнуўся з фактычным рассяляньваннем краю, знікненнем сялянскай Атлантыды—апошняга бастыёна на шляху дэнацыяналізацыі». Менавіта вёска на працягу стагоддзяў захоўвала мову і этнічнасць, якім здрадзілі заможная шляхта і магнацтва, і толькі дзякуючы вёсцы этнас выжыў. Але эпоха саветызацыі, таталітарызму здратавала і вясковую культуру—таму «пятае» «Адраджэнне» (па хранаграфіі У. Конана) сутыкнулася з пасіўнасцю і аморфнасцю шырокіх сацыяльных масаў: як квазінацыянальнай інтэлігенцыі, гэтак і гаспадарчага работніцтва. «Адродзім вёску — будуць шанцы на сапраўдны нацыянальны Рэнесанс. Лёс Адраджэння вырашаецца менавіта тут, на Бацькаўшчыне»,—лічыць У. Конан.

Мовазнаўцы прысвяцілі шмат часу пытанням рэфармацыі сучаснай беларускай мовы. Напачатку выступіў народны дэпутат БССР А. Трусаў з даведкай аб «дрэнным» выкананні Закона аб мовах у Беларускай ССР, затым пачаліся навуковыя паведамленні. Сярод іх прыцягнулі ўвагу даклад прафесара П. Сцяцко (Гродна) «Праблемы ўдасканалення беларускага правапісу», паведамленне В. Лубы — рэдактара тыднёвіка «Ніва» (Беласток) — аб абмеркаванні мовазнаўчых праблем на старонках выдання, іншыя выступленні — усяго каля 30. П. Міхайлаў, лінгвагеограф з Мінска (Інстытут мовазнаўства АН БССР), зрабіў цікавае паведамленне аб падрыхтоўцы да друку «Лексічнага атласу народных гаворак Беларусі».

Варта адзначыць замежныя даклады — К. Вулхайзера (універсітэт шт. Індыяна, ЗША) аб развіцці агульнаславянскіх прыставак у беларускай мове, і К. Гутшміта (Берлінскі універсітэт), які даследуе пасярэдняе становішча беларускай мовы ў славянскай групе і лічыць яе характарыстыкі збіральніцкімі ад ўсходне- і заходнеславянскіх моваў.

Сакратар секцыі С. Санько, рэзюмуючы працу, сказаў у інтэрв'ю, што шмат тэм за шчыльнасцю рэгламенту толькі пазначана: іх досвед прадоўжыцца на новых кангрэсах і сустрэчах. Але галоўнае, што палеміка прынесла карысць для фармулёўкі падыходаў да рэформы сучаснага правапісу. Прынамсі, замежныя лінгвісты засцераглі нашых навукоўцаў і палітыкаў ад радыкалізацыі гэтага працэсу. Сусветная практыка сведчыць аб выпадках расколу грамадства пасля змянення нават адной графемы ў мове (Сербія). «Грамадства павінна быць падрыхтавана да моўных навацый»,— казаў С. Санько.

Трэцюю секцыю адкрыў «Словам пра Максіма» членкарэспандэнт АН БССР А. Лойка. Адбылося каля 20 паведамленняў пра навейшыя здабыткі ў галіне перакладу і апрацоўкі літаратурнай спадчыны. Сярод іх адзначаліся замежныя выступленні: англійскай перакладчыцы беларускай паэзіі Веры Рыч і загадчыцы беларускага сектара Нью-Йоркскай публічнай бібліятэкі Зоры Кіпель.

Матэрыялы прагучаўшых дакладаў і дасланыя на кангрэс тэксты патрапяць у выніковы зборнік.

## «Беларусы на перакананнях...»

У нядзелю, 26 мая, удзельнікі кангрэса пабывалі на адкрыцці свята М. Багдановіча, наведалі Вязынку, Мікалаеўшчыну — адпачывалі. Назаўтра планаваўся працяг секцыйных выступленняў і «круглы стол», ці, лепей сказаць, агульнакангрэсавая нарада «Беларуская дыяспара», да якой рыхтаваліся і якую з нецярплівасцю чакалі як даследчыкі эміграцыі, гэтак і ўсе ўдзельнікі, пазбаўленыя дасюль праўдзівай інфармацыі аб беларускіх шляхах у свеце, аб жыцці і чыннасці братоў у выгнанні.

З раніцы ў панядзелак патраціць у канферэнц-залу Дома літаратара было праблематычна: нават журналістам месца не хапала, не кажучы ўжо пра ўсіх жадаючых паслухаць прадстаўнікоў эміграцыі, у першую чаргу Янку Запрудніка і Вітаўта Кіпеля.

Дж. Дзінглі гэткі аншлаг не вывеў з раўнавагі: ён разам з Г. Сяргеевай (Інстытут гісторыі АН БССР) дыпламатычна вёў нараду, строга ашчаджаючы час і карэктна перапыняючы выступленні «не па тэме». Перад такой спакусай не ўстаяў, як заўсёды, «наш» бок: хацелася выказаць усе болі, не замаўчаць Чарнобыль і да т. п.. «Замежны» бок больш прагматычна карыстаўся сціслым, «абсульданскім» рэгламентам, выступаючы ў межах замоўленай тэматыкі.

Г. Сяргеева распачала нараду развагамі зноў-такі аб «аб'ядноўваючай мяжы». На яе думку, ці не першачароднай задачай беларусістаў-удзельнікаў МАБа з'яўляецца напісанне праўдзівай гісторыі беларускай эміграцыі. Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф. Скарыны пачынаюць ужо рабіцца першыя захады па напісанні зборніка «За межамі Бацькаўшчыны», праінфармавала Г. Сяргеева і запрасіла ўдзельнікаў нарады паразважаць над найбольш прыдатнымі накірункамі далейшага даследніцтва.

Затым выступіў дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку Вітаўт Кіпель. Ён зрабіў экскурс у гісторыю беларускай эміграцыі ў Амерыцы, пачынаючы з XVII ст. і да другой сусветнай вайны. Праўда, каб здолець выкласці сённяшняе становішча беларусаў у Амерыцы, спатрэбіўся дадатковы час, аб выдзяленні якога настойліва прасіў вядучага А. Барскі.

**Распавядаючы пра дзейнасць Беларускага інстытута ў Нью-Йорку, В. Кіпель паведаміў, у прыватнасці, што на працягу дзесяцігоддзяў раз'яднання з Бацькаўшчынай эміграцыя пільна цікавала за развіццём беларускай мыслі ў замежжы, стварыла каштоўныя картатэкі — у пэўным сэнсе інфармацыйную скарбонку беларусікі XX ст. Апошнім часам падрыхтаваны і знаходзяцца на варштаце дзве капітальныя працы — «Беларускі перыядычны друк» (ад пачатку стагоддзя) і «Беларускі эміграцыйны друк» (выданне кніг у 1919—1939 і 1945—1980 г. г.). Такія высілкі рабіліся ў той час, калі ў БССР даследаванне беларусікі ў замежных мовах было ці не забаронена. Сёлета, калі эміграцыя ўлучыцца ў дзейнасць МАБа, яе творчыя здабыткі стануць і здабыткамі беларусазнаўцаў на Радзіме. «Мы адчуваем, што ў сёлетніх, спрыяльных дзеля свабоды думкі і супольнага кантактавання варунках, нам, беларусам Амерыкі, пільна патрэбна быць блізка з краем, не адрывацца духоўна, наколькі гэта магчыма, ад бацькоўскага панадворка», — гаварыў В. Кіпель.**

Пазней д-р Я. Запруднік, рэдактар газеты «Беларус», пашырыў вузка-асветніцкія аспекты гутаркі за «круглым сталом» да развяг над канкрэтным узаемадзеяннем эміграцыі і Беларусі ў час рыначных рэформ на Бацькаўшчыне. Эміграцыя, напрыклад, у стане дапамагчы спецыялістам з Беларусі авалодаць сучаснай эканамічнай тэорыяй і набыць практычныя здольнасці, перад тым, як рухацца ў цывілізаваны свет. «Лічу, што ўжо паўстае праблема падключэння да міжнароднага форуму псіхалагічных, так бы мовіць, эмігрантаў у БССР: пачынаючых прадпрымальнікаў— бізнесменаў, прадстаўнікоў вольнага мастацтва і інш... Мы ў Амерыцы ніколі не ўважалі сябе адарванымі ад беларушчыны; нашы дзеці і ўнукі, народжаныя ў замежжы, застаюцца, як і мы, беларусамі па перакананнях»,—сведчыў Я. Запруднік.

Прапановы выказаны, а час іх ажыццяўлення, відаць, наперадзе. Прынамсі, за першымі словамі паразумення слушна чакаць практычных дзей, якія сцвердзяць шчырасць суразмоўнікаў за «круглым сталом». Адчувалася, натуральна, што яшчэ патрэбен пэўны час, каб выгаварыцца, паразумецца паміж сабою ў супольным рушанні да Адраджэння Бацькаўшчыны. Аб гэтым яскрава сведчылі выступленні прадстаўнікоў часопісаў «Полымя», «Нёман», «Спадчына», АН БССР, новага перыядычнага выдання «Культура». Замежныя калегі атрымалі ад іх шэраг запрашэнняў да творчага супрацоўніцтва і абмену інфармацыяй. Відаць, беларускага чытача чакае знаёмства з іншымі невядомымі творамі нацыянальнай літаратуры і даследніцтва, якія дагэтуль замоўчваліся і ігнараваліся дзяржаўнай прэсай.

У сваю чаргу госці з прыязнасцю паставіліся да намаганняў працаўнікоў лабараторыі этнічнай геаграфіі Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага, якіх на нарадзе прадстаўлялі прафесар С. Польскі і даследчык С. Мацюнін. Дэмограф С. Мацюнін зрабіў даклад «Рассяленне беларусаў у свеце», дзе выклаў сваю тэорыю нацыянальнай дыяспары і ўяўленні аб хвалях эміграцыі. Вакол гэтага выступлення завязалася палемічная гутарка. Выклікалі сумненні і статыстычныя дадзеныя, і метадалагічныя моманты даклада, а па пытанні рээміграцыі і «спрычыненні» да яе органаў НКУС асобна выступіў гісторык Ю. Васілеўскі (Мінск).

Праф. С. Польскі праінфармаваў нараду, што лабараторыя МДПІ рыхтуе да выдання этнадэмаграфічны «Атлас беларусаў у свеце», у складзе 180 карт з дэталёвымі сацыяльна-дэмаграфічнымі і канфесійнымі характарыстыкамі.

Прагучалі паведамленні (Г. Сурмач, Л. Яўменаў) аб тым, што ў нас вядзецца апрацоўка матэрыялаў пра асветніцкую дзейнасць эміграцыі, а аддзел навуковай інфармацыі АН БССР падрыхтаваў і мае прапанаваць бібліяграфічныя даведкі аб эмігранцкіх выданнях. Аказваецца, што тымчасам і ў нас вялася плённая работа, якая пасля кангрэса паскорыцца.

**Закончыла агульную гутарку «за круглым сталом» прамова паэта і філолага з Польшчы А. Барскага. Распавёўшы аб намерах і турботах дзеячаў беларускага руху ў Польшчы (яны выступаюць сёння з прапановай стварыць у Варшаве наша консульства, аблегчыць мяжовыя стасункі з Гродзенскай і Брэсцкай абласцямі, наладзіць абмен нацыянальным студэнцтвам і школьніцтвам і інш.), А. Барскі сказаў напрыканцы: «Узаемаадносіны Бацькаўшчыны і эміграцыі можна параўнаць з уздзеяннем магніта на пілавінне: яно цесна прыцягваецца. У нас жа дзесяцігоддзямі назіралася адваротная выява: на БССР рабілася ўсё дзеля таго, каб падкрэсліць здрадніцтва эміграцыі, аддаліць сыноў ад роднага дому. Спрэс да апошняга часу ігнаравалася таксама на ўзроўні дзяржаўнай палітыкі існаванне беларускага руху ў Польшчы, на Беласточчыне — частцы Бацькаўшчыны, гвалтоўна аддзеленай мяжой...**

**Нас, пазіраючых звонку на падзеі ў самой БССР, і сёння не пакідае трывога за стан мовы і нацыянальнай палітыкі ў рэспубліцы, бо ўплывы этнанігілізму не перапыняюцца. Упэўнены, што Беларусь тады і настолькі станецца магнітам для эміграцыі, калі і наколькі яна здолее... стаць Беларуссю».**

●

Першы кангрэс беларусістаў свету, на якім адбылося фактычнае стварэнне Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, прыняты яе статут і выбраны кіраўнічыя органы, толькі запачаткаваў яднальны рух даследчыкаў беларусікі. Наперадзе — здзяйсненне асветных і гуманітарных намераў.

Збор літаратараў і навукоўцаў у шыхты агульнай суполкі несумненна сведчыць аб наяўнасці памкнення вылучыць і данесці беларускую думку да міжнароднага грамадства. На маё меркаванне, падзея сталася знакам пачатку новай плыні ў адраджэнцкім руху: карпатлівай працы нацыянальнай інтэлігенцыі дзеля патрыятычнага выхавання моладзі і ўсяго грамадства рэспублікі. Без гэтага грунту будаванне суверэннай Беларускай Дзяржавы, відаць, ніколі не здолее перасягнуць узроўню бясконцай ідэйнай палемікі з посттаталітарнай сістэмай. Цешыць тое, што прыхільнікаў менавіта такой, «узважліва-грунтоўнай» плыні нацыянальнага руху, — большае.

**Юрась ЗАЛОСКА.**

Фота А. КЛЕШЧУКА.



Маладая Беларусь. На адкрыцці свята М. Багдановіча.

# ПЕРСПЕКТЫВА ВЫЖЫВАННЯ НАЦЫІ

## *Выступленне В. БЫКАВА*

Беларусы—мабыць, адна з самых няшчасных нацый Еўропы. Не зважаючы на ўсе нашы зусім неблагія, Богам дадзеныя чалавечыя якасці, мы дагэтуль не маем таго, чаго варта мець кожная нацыя свету, для чаго, па сутнасці, яна і існуе пад небам. І ўсё таму, што з нейкага капрызу гісторыі мы ўпусцілі свой нацыянальны цягнік і апынуліся ў ролі вечных паязджан, пазбаўленых прыстойнага лёсу, здатнага прытулку дзяржаўнасці. Можа, толькі цяпер гісторыя дае нам пэўны і надта сумніцельны шанец, і ўсё залежыць ад таго, ці пакарыстаемся мы ім. Ці ён у каторы раз выслізне з нашых няўмелых рук. Асабліва калі ёсць надта спрытныя рукі, якія б'юць спрактыкавана, пад дых.

Зноў, як і заўжды, найбольшыя спадзяванні на нашу мову, гэты галоўны нацыянальны набытак, наша гістарычнае апірышча. Нездарма яе так вынішчалі у стагоддзях—забаранялі, аплёўвалі, адвучвалі ад яе цэлыя пакаленні—у імперыі патрэбна была адна, імперская мова. Але калі мы, нацыянальна панішчаныя, класава раз'яднаныя, спаскуджаныя шматгадовай маной, нешта ўсё ж значым у сусветнай суполцы народаў, дык найперш праз гэтую нашу мову. Без яе ад нас не засталося б і следу, як не засталося яго ад колішніх тутэйшых яцьвягаў. Мова верна служыла народу ў добры і благі час, ратавала яго існаванне і ніколі не здраджвала яму. Гэта ёй нярэдка і няўдзячна здраджвалі на Беларусі, за што заўжды былі бязлітасна караны Богам і гісторыяй.

На гэтай мове праз пэўную долю маны і пустаслоўя створаны, аднак, самы светлы і высакародны фальклор, напісана немалая літаратура. І сёння я рады вітаць у гэтай залі нашых братоў у выгнанні, а таксама нашых знакамітых паслоў, паўнамоцных прадстаўнікоў беларушчыны ў розных краінах свету. Гэта іх намаганнямі народы пазналі Беларусь і беларусаў —высакароднасць нашага сэрца, наш бясхітрасны розум і наш неспатольны боль. Так, боль. Менавіта боль—гэты наш гістарычны спадарожнік, які ні на год не пакідаў нас у мінулым, не пакідае і зараз. У нашай імперыі даўно ўжо няма шчаслівых народаў, але беларусы, як ужо сказана, можа, самыя нешчаслівыя сярод іх. Бо, не зважаючы на гаманкую імітацыю рэфармізму, на Беларусі нічога не мяняецца, па-ранейшаму нашай афіцыйнай рэлігіяй застаецца сацыялістычная дэмагогія, наш парламент—не болей чым гаманкая сходка камуністаў, занепакоеных адзінай праблемай—утрыманнем улады. У нас беззваротна панішчана сялянства, гэты традыцыйны асяродак беларускасці, наш рабочы клас робіць толькі першыя няўмелыя спробы ўстаць з каленяў, а наша нацыянальная інтэлігенцыя ў масе сваёй—тыповае ўвасабленне лакейскага канфармізму. Менавіта ў гэткіх варунках беларускі народ наблізіўся да краху нацыянальнай культуры і дзяржаўнай эканомікі, наперадзе нас чакае татальны заняпад і голад з усімі яго жахлівымі наступствамі. Перспектыва выжывання нацыі, густа засыпанай радыенуклідамі, абсалютна няпэўная, калі не зусім змрочная. У гэткіх варунках ашчаднікамі нашай нацыянальнай існасці можа стаць беларуская дыяспара, выгнанне, дзе высілкамі беларускіх патрыётаў можа захавацца наш нацыянальна-культурны генафонд. У нас, на Беларусі, тое ўжо немагчыма, тое панішчыцца калі не пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, якая не паспела гэтага зрабіць у свой час, дык ва ўмовах рыначнай эканомікі. Гістарычны вопыт паказвае, што зберагчы сябе ды сваю існасць нацыя здольна толькі ва ўмовах абсалютнага суверэнітэту. Дзяржаўны суверэнітэт, поўная культурная самастойнасць і палітычная незалежнасць—не заганная ідэалогія і не сепаратысцкае палітыканства, як гэта сцвярджаюць шавіністы-дзяржаўнікі. Гэта адзіна магчымая форма нацыянальнага выжывання ў сучасных, савецкіх умовах. Без поўнай палітычнай незалежнасці нацыя з такім аслабленым у нацыянальных адносінах менталітэтам выжыць не можа. Таму зусім наіўнымі, калі не яўна спекулятыўнымі з'яўляюцца намеры тых нашых псеўдапатрыётаў, якія цешаць сябе ілюзіямі дамагчыся захавання беларушчыны метадам прыручэння да яе «правільнай», «нескажонай» камуністычнасці, бальшавізму з «ласкавым, чалавечым», тварам. Які ў бальшавізму твар, чалавецтва добра ўжо ўведала, і нідзе той твар не мяняецца. Ён нязменны.

Так, спадзяванак у нас няшмат, і, можа, апошняя наша надзея—на несмяротную сутнасць народа. Усё ж дзеля чагосьці ён быў створаны Богам на гэтай благаслвёнай зямлі. І мы цешым сябе думкаю, што Беларусь яшчэ неяк паслужыць на ёй, калі не нам, дык наступным пакаленням, а можа, і сусветнай цывілізацыі. У гэтым сэнсе мы і вызначаем наш абавязак і бачым нашу святую надзею, якія мы і ажыццяўляем, наколькі тое нам дадзена бязлітасным лёсам і не меней жорсткай гісторыяй.



Браты Запруднікі ў Мінску.

падымуся і смальну гэтаму гарбылю аднавокаму ў вуха парасячае.

Дзядзька ж авіраўскі далей пракурорстваваў:

— ... і маючы такога Суседа вы за граніцу збіраецеся?

Тут мой экстрэмізм падпольны абачліва саступіў сцежку класіцы выратавальнай. Класіка выйшла крыху зыначаная, пад сітуацыю падагнаная.

— Сусед за суседа не атвечает! — крыкнуў я на ўвесь гэты пакой светлы.

Мне пашанцавала.

Добра, што крыкнуў я моцна, голасу не пашкадаваў.

Мяне пачуў сам Кастусь Усцінавіч. Той самы, што на карціне шырокай. Ён заклапочана згарнуў у трубку газету «Праўда» і сцёбнуў ёю па патыліцы авіраўца аднавокага. Сцёбнуў і астматычна выдыхнуў:

— Не забывайце, таварыш, гэты афарызм гуманны!

— А я й не забываю, — сцяўся дзядзька пакараны. Ён крутануўся тварам да правадыра.

О, метамарфоза нечаканая!

Дзядзька ўжо апраўдвацца мусіў:

— Вы не падумайце, Кастусь Усцінавіч, што я да Суседа нашага таварыша маладога нешта падазронае маю. Зусім не. Я ж разумею, што Суседу ягонаму было тады толькі гадкоў трынаццаць. Я разумею, што ён у неба страляў. Няхай з пісталета варожага, але ж у неба. Праўда, сала нашае ворагу аддаў...

— Сала шкада, — згадзіўся Кастусь Усцінавіч.

— Але гэта нічога, — ажывіўся дзядзька, — бо ўсё пасляваеннае жыццё Суседа прайшло на нашых, па савецкіх законах. Зараз ён шостым сакратаром аднаго гаркома палескага працуе. А пра яго, нашага таварыша маладога (дзядзька аднавокі на мяне іказаў), далажу вам, Кастусь Усцінавіч, толькі самае добрае. Сумленны, правераны малады чалавек, анкету чыстую мае. Бацькі ў яго цудоўныя. Можна смела пускаць. А пра Суседа ягонага я так... для памяці спытаў. Стрэл гэты ў анкету не ўпішаш, а забываць не варта.

— Не варта, — згадзіўся Кастусь Усцінавіч і параіў, — але й валаводзіць з нашымі грамадзянамі маладымі таксама не варта.

— І я пра тое ж! Няможна валаводзіць! Няхай наш таварыш малады едзе за мяжу, няхай на здароўе па Еўропе ходзіць, толькі...

— Што толькі? — Кастусь Усцінавіч здзекліва пасміхнуўся. — Зноў Сусед?

— Ды не! — закруціўся дзядзька авіраўскі. — Я ўжо пра іншае... паверце, я вельмі рады, што нашаму таварышу маладому і час выпаў на паездку добры, і грошы на дарогу самохаць набеглі, ажно ў жмені не стоўпяцца, і цудоўна, што ў грудзях ягоных маладых настрой гітарны варухнуўся, а самае лепшае дык тое, што з таго боку несавецкага яму паперынай запрашальнаю махнулі ветліва. Я сам з балкона авіраўскага бачыў тое памахванне і сам жа з балкона афіцыйна закрычаў праз драты пагранічныя, калючыя: прыедзе, прыедзе ваш сябар! Не хвалюйцеся!..

Дзядзька аднавокі адсопся, апачыў секунду і, не азірнуўшыся на мяне, зноў языкаваць кінуўся:

— Дык я не пра гэта ўсё, Кастусь Усцінавіч, я пра іншае... я наперад кідаю, наперад разважаю. Скажам, наш таварыш малады ваенкамату спатрэбіцца. Га? Ну раптам ваенкамат захоча радавога запасу (тут дзядзька маё прозвішча назваў) на рубяжы абаронныя паставіць. А ў гэты самы час, калі ваенкамат захоча, наш радавы запасу будзе па Еўропе хадзіць. Што тады?

— Праблема? — Кастусь Усцінавіч пачухаўся на карціне шырокай.

— Я не скажу, што праблема вялікая, так сабе праблемка, — супакоіў правадыра дзядзька, — можна сказаць, што праблемка зусім аніякая. Больш таго, праблемка простая, як шомпал. Усяго й зрабіць трэба, што нашаму таварышу маладому зараз жа ў ваенкамат збегаць, тут недалёка, і ў ваенкома нашага на два тыдні ў Еўропу адпрасіцца.

— А што, — усцешыўся Кастусь Усцінавіч, — збегайце, малады чалавек, адпрасіцеся. Няхай на анкеце ваенком напіша, што адпускае вас.

На гэтым ён змоўк, глыбей у карціну адсунуўся і нанова газету «Праўда» разгарнуў.

Замаркочаны выйшаў я з пакоя светлага. Нават не падзякаваў ні Кастусю Усцінавічу, ні дзядзьку аднавокаму. Зрэшты, за што ім дзякаваць, асабліва дзядзьку? У Суседа майго, цяпер высокапартыйнага, коршакам учапіўся. Бяда такая — з пісталета стрэльнуў. Смех! Не сынам жа палка ўласаўскага быў...

У ваенкамат прыйшоў я з настроем нулявым. Увесь перакручаны прыйшоў. Злы. Адна палёгка, што ваенкамат — не гастраном, чаргі ніякае, таму на ваенкома я адразу наскочыў.

Ваенком — з ордэнам Вялікай Айчыннай — анкету маю ўважліва прачытаў, пасля перачытаў, вочы папцёр, на мяне тройчы паўзіраўся, моўчкі ад ілба да патыліцы думку нейкую паганяў, зноў на мяне паглядзеў і, як той авіравец аднавокі, палцам чырвоную з надпісам «Сусед» анкеты з-пад сябе выкалупнуў і тыя ж самыя матузкі венозна-сінія распусціў пагрозліва.

І раптам не пытанне — апперкот у сківіцу самую:

— Дык Сусед ваш нарадзіўся ў трыццатым годзе?

— О-о-о,— толькі заохаў я, ды тут адна каманда, і гэты законнік пачне зараз пра фронт пытацца...

Які ж я здагадлівы, — так і выйшла!

— На фронце, вядома ж, не быў?

— Не быў, — прашаптаў я і пашукаў на сцяне Кастуся Усцінавіча выратавальнага.

У кабінеце ж ваенкома ніякіх партрэтаў не было, толькі на сейфе бюсцік Суворава прымасціўся.

— І ў паліцыі не служыў? — рытарычна спытаў ваенком і сам жа ўдакладніў, нібыта памог мне, — па малалецтву...

І тут мяне ўзбурыла, што называецца, закруціла, і як таго сабаку шалёнага, — па цаліку сакавіцкім панесла.

— Ён да ўласаўцаў у мястэчку N бегаў! — ускінуў я над сталом ваенкомаўскім усе свае кулакі фіялетавыя.

— Да ўласаўцаў!? У мястэчку N?! — замілавана, па-дзіцячы ўсклікнуў ваенком.

— Да ўласаўцаў! — Ад крыку ў мяне й вушы зрабіліся чарнільныя.

— Бегаў?! — ўсё з тым жа замілаваннем дзіцячым перапытаў нечакана памаладзелы ваенком. — У мястэчку N?

Я нічога не разумеў, абсалютна нічога не цяміў — адкуль замілаванне гэтае? З чаго ў ваенкома сліна такая? Я толькі бачыў, што ваенком то на паверхні боўтаўся, то з галавою патанаў у глыбокай палонцы пачуццёвай, поўнай нейкай экзальтацыі цьмянай. У два словы кажучы: гінуў чалавек.

Па-рыцарску я кінуў яму саломінку выратавальную, яшчэ раз пацвердзіўшы:

— Так, бегаў... У нас, у мястэчку N палескім у сорак трэцім уласаўцы стаялі і за кавалак сала дазволілі Суседу майму з пісталета стрэліць...

Мая саломінка выратавальная ператварылася ў галіну пальмавую, бо...

Ваенком надбег да мяне, абняў і пацалаваў. Ваенком рухаўся вулканічна. Усё на ім было гарачым, нават пагоны. Ордэнам Вялікай Айчыннай ён абпаліў мне шчаку.

— Дык за сала далі стрэльнуць! — ваенком толькі што не лямантаваў, сціскаючы мае плечы цывільныя. Віхура шчасця неўтаймавана шалела ў ягоным старым целе ваяцкім. На вейках настальгічна бліпчалі слёзы. Нарэшце ён схамянуўся, адпусціў мяне, узяўся за маю анкету:

— Што мне напісаць трэба?

— Напішыце ў левым кутку верхнім, што з першага ліпеня ажно па пятнаццатае вы не будзеце браць мяне на зборы вучэбныя і падпішыцеся.

Ваенком напісаў, распісаўся і прыляпіў да ўсяго пячатку сонца-ўсходную.

— Перадайце Суседу вашаму прывітанне, — нечакана папрасіў ён.

— Ад вас? — недаўменна перапытаў я.

— Не! — напужаўся ён. — Не ад мяне асабіста, а так... ад Міністэрства абароны.

Я развітаўся з ваенкомам, да дзвярэй лёгка павярнуў, а на душы, — ні ўсмешкі, ні зернятка светлага. Здаецца ж, перамог, прабіў сабе сцежку за драты пагранічныя, а ў роце — кісла, і сэрца не спявае, — толькі дрыгае. У галаве ж зусім свярботка ўсчалася пякучымі пытаннямі напаленая: хто ж дзядам гэтым крэсельным пра Суседа майго высокапартыйнага насвістаў? З чаго гэта ён — Сусед мой высокапартыйны — у іхнюю памяць склератычную так моцна ўштампаваўся? Чаму...

Выйшаў я з кабінета ваенкомаўскага, дзвярыма не ляпнуў — адно што на нітку жывую прычыніў, шчылінку на валасок пакінуў. Усё абачліва зрабіў.

У кабінеце ж адразу гаворка пачалася.

— Чый гэта недарасль? — спытаўся ў ваенкома голас.

Голас — бадзёры, арыстакратычны.

— Гэта — ліцвін малады, Аляксандр Васільевіч...

— А,— здагадаўся я,— бюсцік Суворава загаварыў. Той самы, што на сейфе. Генералісімус!

Ваенком тлумачыў:

— Сусед ягоны быў отракам у кампанію апошнюю і неяк сала мне на пазіцыю прынёс. Я яму за гэта з пісталета стрэльнуць даў.

— Сала смачнае было? — пацікавіўся генералісімус.

—Не паспеў пакаштаваць, Аляксандр Васільевіч, — сумна прызнаўся ваенком, — пакуль рыхтаваў отрака да стральбы, сала ўкраў бамбардзір з бастыёна суседняга.

— І як ты злодзея пакараў?

— Выбіў гаду вока, — сказаў ваенком.

— Садзеяў нядурсцвенна, — пахваліў генералісімус.

БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА

# ЯЗЭП ГЛАДКІ З ЛАГОЙШЧЫНЫ

З гэтым чалавекам я пазнаёміўся ў першы год Вялікай Айчыннай вайны. Да мяне падышоў невялікага росту, ладна складзены мужчына і, падаўшы руку, прамовіў:

— Гладкі... Язэп Адамавіч... Магчыма, і чулі такога. Некалі настаўнічаў у вашым раёне.

— Чаму не, — адказаў я. — Карэнцы, дзе вы працавалі, і па сённяшні дзень успамінаюць пра вас. А вось бачыцца з вамі мне не даводзілася.

Разгаварыліся... З гутаркі даведаўся, што Язэп Гладкі быў адным з тых, хто пачаў навучанне дзяцей у раёне пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Спачатку працаваў настаўнікам у Корані, а потым, перадаўшы школу свайму брату Казіміру, пераехаў у родныя Міхалкавічы і настаўнічаў там.

У 1930 годзе Я. Гладкі пераязджае ў Мінск, каб прадоўжыць пачатую раней вучобу. Тут заканчвае вячэрнія курсы пры педінстытуце і ўладкоўваецца на адказную пасаду ў адну з вышэйшых навучальных устаноў.

У вайну вяртаецца ў родныя Міхалкавічы і зноў аддаецца настаўніцкай працы. Але і тут не знаходзіць сабе месца. Яго праследавалі яшчэ да вайны, лічачы нацыяналістам. Не раз пагражалі арыштам. З кляймом нацдэма загінуў яго брат Казімір. Кажуць, што смерць сваю ён сустрэў у Курапатах.

Язэп Гладкі не чакаў міласці ад сталіншчыны і вымушаны быў падацца на Захад, пакінуўшы на радзіме багатую бібліятэку. Узяў з сабой толькі самае неабходнае, што патрабавалася для далейшай работы. Гэта незакончаныя навуковыя працы, багаты матэрыял па народнай творчасці. Тое ж, што пакінуў, стала потым здабыткам землякоў. Прыязджалі нават з Мінска, забіралі, што каго цікавіла. У бібліятэцы Гладкага знаходзіліся розныя беларускія выданні — камплекты часопісаў «Узвышша», «Саха», «Плуг», шматлікія працы беларускіх вучоных, падручнікі.

Апынуўшыся ў Заходняй Германіі, а потым у ЗША, Я. Гладкі разгарнуў кіпучую навуковую дзейнасць. З-пад яго пяра выйшлі ў свет «Лемантар», чытанні для розных класаў беларускіх школ, кнігі і брашуры «Помнікі старажытнасці», «Родны палетак», «Наша краіна» і інш. У ЗША Я. Гладкі стварае выдавецтва «Заранка», піша артыкулы, нарысы, успаміны, робіць апісанні народнага быту, звычаяў і абрадаў беларусаў. Усяго ім выдадзена за мяжой больш за дзесятак навуковых прац. Сярод іх «Краёвы слоўнік Лагойшчыны» (на восем тысяч слоў), «Прыказкі Лагойшчыны», «Дудар», зборнік народных песняў з нотамі.

Напісана Я. Гладкім шмат, але не ўсё, што змог стварыць, трапіла ў друк. Так, засталіся ў рукапісах нямала розных артыкулаў, уражанняў аб жыцці і часе. Вялікую каштоўнасць, напрыклад, уяўляе падрыхтаваная ім кніга мемуарнага характару «Чутае, бачанае, перажытае», у якой пададзены шырокі малюнак народнага жыцця на Лагойшчыне канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Усё гэта знаходзіцца ў беларускім інстытуце мастацтваў у Нью-Йорку.

Памёр Язэп Гладкі ў эміграцыі 28 ліпеня 1972 года. Не так даўно радыё «Свабода» прысвяціла яму адну са сваіх перадач.

Б. САСНОЎСКІ.

**Калі ж на кручы утрымаўся**
**Неспадзяванае ракі,**
**Я зразумеў, што страх мой гнаўся,**
**І гнеўна сціснуў кулакі.**

●

А. МАЛАХОЎСКАМУ.

**Вядуць бабулі песні у застоллі,**
**Паружавеўшы крышку ад віна.**
**І сустракаюць пірагом і соллю**
**І споведдзю хварэюць давідна.**
**Скажы, чыя паважлівая сіла,**
**Сумленню падуладная твайму,**
**Тут сеяла, арала і касіла**
**І выпрастала соткі на зіму!**
**Калі матуль старэнькіх забываюць,**
**Матулі нечакана паміраюць.**
**Ды дзякуй Богу, ёсць яшчэ сыны**
**Чужыя, быццам родныя яны.**
**Кілзай каня і кліч на дапамогу.**
**Паедзем да старых тваіх бабуль.**
**Паклонімся збуцвеламу парогу,**
**Успомніўшы і хто мы, і адкуль.**

●

**Буйства, шаленства дажджу,**
**Кожная кропелька пела.**
**Вымыю гэтак душу,**
**Каб, нібы цела, трымцела.**
**Вымыю гэтак душу,**
**Каб ні пыліначкі бруду.**
**Шчасця ў жыцця папрашу,**
**Крышку шчаслівым пабуду,**
**Заўтрашні дзень свой пачну,**
**Як учарашні — у скрусе.**
**Ты праз стагоддзі пачуй,**
**Як без цябе весялюся.**

●

**Мы з табою, на жаль, несур'ёзныя людзі,**
**Нам сказаць, як зманіць, мы такія адны.**
**І паўзе халадок у збалелыя грудзі,**
**І не веру ўжо я ні ў словы, ні ў сны.**
**Дзень самотны згарэў і другі дагарае,**
**А ў душы, а ў душы закрычалі сычы.**
**Адчуванне, бы твой лепшы друг памірае,**
**І не можаш нічым ты яму памагчы.**

●

**Я не смяяўся ўжо даўно,**
**Прымаю смех, як перажытак.**
**А церама твайго акно,**
**Як змаляваны дзецьмі сшытак.**
**Карункі дзіўныя на ім.**
**І не прайсці, каб ні спыніцца.**
**Штось несуцешна нам дваім,**
**І чартаўшчына ноччу сніцца.**
**...А сёння выпаў першы снег.**
**І чысціні яго скаруся.**
**Я твой вясёлы чую смех**
**І сам, нібы дзіця, смяюся.**

●

**Я без цябе сумую.**
**Долу хіну галаву.**
**Дні свае падсумую,**
**Што без цябе жыву.**

**Выйду блукаць на сцежкі —**
**Восень, туман, дажджыць.**
**Я без тваёй усмешкі**
**Вечнасць паспеў пражыць.**

**Як я трымаюся, Божа,**
**Голас вятроў лаўлю.**
**Я звар'яцею, можа,**
**Толькі не разлюблю.**

**Камісія па літаратурнай спадчыне Станіслава ШУШКЕВІЧА**

Створана камісія па літаратурнай спадчыне Станіслава Шушкевіча. У яе ўвайшлі Алесь Марціновіч (старшыня), Артур Вольскі, Ніна Галіноўская, Яуген Каршукоў, Павел Пруднікаў, Н. С. Плаксіна (дачка пісьменніка).

# Надзея ёсць, а шанцы?

**З нагоды нечарговага з'езда Музычнага таварыства БССР, які стаўся ўстаноўчым з'ездам Саюза музычных дзеячаў Беларусі**

НЕ НАДТА верыцца, што некалі настане ў нас дэфіцыт шыльдаў, бірачак, этыкетак. Гляньце наўкола: ці не кожны другі практыкуецца ў гэтай «саматужнай дзейнасці». А колькі выдумкі ды спрыту! Новы саюз яшчэ і кроку не ступіў, а на яго кволую шыю ўжо навешалі жмут цэтлікаў: тут табе і захопленая рэклама, і зусім наадварот... З'езд толькі-толькі прайшоў, на прытулку нованароджанага саюза засталася пакуль дошка са словамі «Музычнае таварыства БССР», але ўжо тыражуецца клішэ-пагалоска: «Адбылася ціхая змена шыльды...»

А сапраўды: што адбылося?

Няцяжка знайсці прычыны, каб адной-дзвюма фразамі сцебануць МТ БССР, выдаўшы заадно аванс яганаму правапераемніку — новаму саюзу. Цяжэй даецца іншае: усведамленне, што «з'езд», «апарат», «праўленне», «прэзідыум», «члены» — гэта ж людзі, жывыя і вельмі розныя, і плён іхніх прамоў, спраў або недаробак вымагае ўдумлівага дыферэнцыраванага стаўлення.

Пакіньма этыкеткі — для слоікаў з кампотам, бірачкі — для швейных вырабаў... З'езд — гэта нагода для абмену інфармацыяй, нагода для роздуму.

Папярэднічала з'езду, як вядома, гаворка на пленуме праўлення МТ, дзе абмяркоўваліся шляхі ўтварэння, мэты і задачы будучага саюза. («ЛіМ» за 19.04.91.). І вось СМД, пра які даўно марылі канцэртныя выканаўцы і пра які недаверліва разважалі асобныя культасветработнікі, у Беларусі ёсць. Але перш чым адбылася досыць заблытаная юрыдычна працэдура роспуску адной суполкі ды ўтварэння іншай, з чым нас павіншавалі прадстаўнікі Масквы, Украіны, Малдовы, мінулі многія гадзіны абгаварэння таго, што было, што ёсць, што мае быць і што будзе, калі...

●

Ёмісты даклад старшыні праўлення МТ **М. Дрынеўскага**, дзе падрабязна і канкрэтна, з мноствам лічбаў і прозвішчаў гаварылася пра чатырохгадовую дзейнасць таварыства, пачынаўся пытаннямі. Ці выжыве нацыянальная культура ва ўмовах надыходзячага рынку, камерцыялізацыі? Што трэба зрабіць, каб музыкант у гэты пераходны перыяд быў абаронены і сацыяльна, і эканамічна, мог праявіць сябе як творчая асоба? Што і як процістаяць бяздумнаму перанясенню гасразліковых ідэй з камерцыйных прадпрыемстваў на некамерцыйныя, духоўныя сферы жыццядзейнасці?

Гэтыя пытанні прыспешылі нараджэнне новага саюза. Бо таварыства, як сціплае фарміраванне музычна-асветніцкага напрамку, сваёй дзейнасцю ўжо заклала падмурак будучых спраў.

**Знойдзены пэўныя падыходы да вырашэння праблем прапаганды народнай творчасці, укаранення перспектыўных форм музычнага асветніцтва, аб'яднання намаганняў зацікаўленых ведамстваў у аптымізацыі працэсаў музычна-эстэтычнага выхавання дзяцей і падлеткаў. Праводзілася работа па павышэнні выканаўчага майстэрства прафесійных музыкантаў, развіцці творчай актыўнасці народных майстроў народных інструментаў, паглыбленні міжнародных кантактаў як сродка прапаганды беларускай выканаўчай школы і дасягненняў самадзейнага мастацтва. Пашыралася выдавецкая дзейнасць, умацоўвалася матэрыяльна-тэхнічная база МТ.**

**Створанае «зверху» Міністэрствам культуры БССР, Белсаўпрофам, ЦК ЛКСМБ і Саюзам кампазітараў, а потым імі ж часткова забытае (камсамол ды СК так і не пералічылі абяцаны ўстаноўчы ўзнос), МТ не толькі не загінула, як многія створаныя ў той час грамадскія аб'яднанні, але і змагло атрымаць падтрымку «знізу», распаўсюдзіць свой уплыў па ўсёй рэспубліцы. 12325 чалавек сваім уступленнем у МТ БССР прагаласавалі за неабходнасць яго існавання, з іх 2883 прафесіяналы, 3776 аматараў, 5666 дзяцей і падлеткаў.**

Зазначыўшы ўсё гэта, дакладчык засяродзіў увагу на выніках масавай творчай работы. (МТ было у ліку ініцыятараў, арганізатараў Рэспубліканскага конкурсу аўтараў і выканаўцаў эстрадных твораў песеннага і гутарковага жанраў, рэспубліканскіх святаў духавой музыкі ў Мінску, гармоніста — у Віцебску і інш.). Чаму такая ўвага самадзейнасці? Сёння, з аднаго боку, адбываецца рост нацыянальнай самасвядомасці, пільная ўвага да сваіх вытокаў, роднай мовы, народнай спадчыны. А з другога — уступленне ў свае правы рынкавай стыхіі з яе патрабаваннямі да культуры. У выніку — адмова ўстаноў культуры ад фарзвіцця народнага мастацтва, спыненне фінансавання і перавод на самаакупнасць музычных ды харэаграфічных калектываў. Гэта не спрыяе росквіту народнай творчасці. І намаганні МТ былі скіраваны калі не на паляпшэнне, дык хоць бы на захаванне, на стабілізацыю абстаноўкі.

За радком даклада кожны мог убачыць сваё. Мне ж успомніўся адчай сталых ужо кабет, кіраўніц дзіцячых харавых калектываў, гуртакоў пры палацах культуры. Іх проста выкідалі на вуліцу — быццам бескарысных утрыманцаў, што не здатныя зарабіць грошай, дарма займаюць памяшканне і вымушаюць плаціць іхняму кіраўніку амаль паўста рублёў...

Дзякуй, калі таварыства дапамагло хоць камусьці з такіх «скарочаных паводле сметы» аматарскіх калектываў. Дзякуй, — авансам! — калі новы саюз дапаможа і беспрытульным прафесіяналам-музыкантам, дапаможа ствараць і захоўваць «некамерцыйныя» супольніцтвы. Бо, як ні горка пра гэта казаць, ніхто так і не падтрымлівае ўжо добра вядомы ансамбль «Класік-Авангард». Гэтаксама нікога не цікавіць, што унікальны брас-квінтэт, створаны мінскімі музыкантамі-духавікамі, проста змарнее, калі будзе існаваць горш чым на самадзейных — на птушыных правах. А ідэя адраджэння старасвецкай беларускай капэлы ва ўсіх выклікае платанічную замілаванасць і ні ў кога — жаданне паклясці першую цаглінку ў яе фінансавы падмурак...

Колькі ёсць *яшчэ* балючых кропак, на якія не можа не звярнуць увагу новы саюз! Аднак і яганы папярэднік не цураўся інтарэсаў ды патрэб прафесійнага мастацтва, задач выхавання слухацкай аўдыторыі, праблем музычнага асветніцтва. Прынамсі, М. Дрынеўскі згадваў штогадовыя фестывалі фартэпіяннай музыкі ў Віцебску і праведзены тамсама сёлетні фестываль «Наша спадчына»; «Студзеньскія музычныя вечары» ў Брэсце, шматлікія лекцыі-канцэрты Магілёўскага абласнога аддзялення МТ, сустрэчы з беларускімі кампазітарамі, артыстамі, музыказнаўцамі, наладжаныя шэрагам раённых аддзяленняў.

**— Аднак, — гаварыў М. Дрынеўскі, — нашы асветніцкія пошукі ў асноўным носяць аднабаковы характар. Не выключаны варыянт, што наша неспакойная будучыня можа рэальна паставіць прафесію, у высокім прызначэнні якой не даводзіцца сумнявацца, на грань катастрофы. І гэта адбудзецца, калі ў цэнтры канчаткова стане фігура аматара музыкі як толькі спажыўца прапануемай яму бізнесам прадукцыі. Выйсце ў рэзкім паляпшэнні музычнага выхавання падрастаючага пакалення. Неабходна спыніць плынь бескультур'я, калі адно музычна бяздарнае пакаленне выхоўвае новыя.**

І за мінулыя 4 гады наша МТ зрабіла *нямала*, каб звярнуць увагу грамадскасці на гэту застарэлую праблему. Камісія МТ па музычнай адукацыі і выхаванні, якую ўзначальвае прарэктар БДК В. Яканюк, знайшла перспектыўную форму арганізацыйна-метадычнай работы: музычны педсавет. На такіх педсаветах і тэматычных пленумах абмяркоўваліся вострыя праблемы падрыхтоўкі прафесійна кампетэнтных настаўнікаў музыкі для ўсіх агульнаадукацыйных школ, а таксама забеспячэння ўсіх дзіцячых садоў кваліфікаванымі музычнымі кіраўнікамі. У адказ на запыты музычнай грамадскасці летась у Магілёве быў адкрыты філіял БДК — яе музычна-педагагічны факультэт. Пры МТ БССР утварыўся дыскусійны клуб «Жалейка», які садзейнічае абагульненню і распаўсюджванню найбольш прагрэсіўных методык работы з дзіцячымі харавымі калектывамі.

Зразумела, што музычна-эстэтычнае выхаванне ды асветніцтва вымагаюць усебаковага клопату. Таму і прагучала ў дакладзе наступнае:

**— Мы павінны сёння перад урадам рэспублікі рашуча паставіць пытанне не толькі аб павелічэнні асігнаванняў на культуру, але і аб уваскрашэнні традыцый мецэнацтва і спонсарства. Усе ініцыятывы і ахвяраванні ў інтарэсах развіцця культуры і адукацыі заслугоўваюць падтрымкі. Сёння дзяржава павінна ўсяляк стымуляваць такія акцыі, прадастаўляючы арганізацыям і асобам, якія займаюцца дабрачыннай дзейнасцю, падаткавыя льготы, як гэта робіцца ў многіх краінах свету. Успомнім Японію: у самым пачатку сваёй дзейнасці вядомая фірма «Ямаха» не пашкадавала каласальных укладанняў у стварэнне шматтысячнай сеткі бясплатных музшкол пры сваіх магазінах, дальнабачна мяркуючы, што следам за павышэннем музычнай адукаванасці японцаў настане час павышэння попыту на прадукцыю фірмы...**

Сітуацыю ў нашай музычнай культуры неабходна выпраўляць — да гэтага абавязвае нават гісторыя. *Як нагадаў прамоўца*. Беларусь і па сваім геаграфічным становішчы, і па ўзроўні развіцця музычнага мастацтва доўгія стагоддзі, аж да пачатку 20-га, знаходзілася ў цэнтры еўрапейскай культуры. Аднак у далейшым, самі адмежаваўшыся ад сусветнага працэсу, мы далі падставу, каб нас з гэтага працэсу выключылі і іншыя. Праўда, час мяняецца: сёння нашы прафесійныя калектывы — сімфанічны і камерны аркестры, камерны хор, хор Дзяржтэлерадыё, шырмаўская капэла і інш. актыўна гастралююць за мяжой, заключаючы новыя кантракты. Уключылася ў развіццё культурнага супрацоўніцтва з зарубежнымі краінамі і МТ, скарыстоўваючы свае магчымасці, у тым ліку і фінансавыя, для ўмацавання міжнароднага аўтарытэту прафесійнай выканаўчай школы рэспублікі, для прадстаўлення нашых маладых музыкантаў, для арганізацыі выездаў за мяжу самадзейных калектываў. МТ перадае новаму саюзу пакет шматлікіх дамоўленасцей наконт працягу творчага ўзаемаабмену з іншымі краінамі.

Варта звярнуць увагу і на тое, што МТ досыць актыўна накіроўвала музыкантаў-прафесіяналаў у творчыя камандзіроўкі па краіне і за мяжу: для знаёмства з вопытам калег, для павышэння прафесійнага майстэрства на семінарах, курсах, фестывалях... Таварыства наладзіла і свае мерапрыемствы навучальна-творчага характару з запрашэннем замежных і савецкіх музыкантаў, слухачоў з-за межаў Беларусі (курсы джазавай імправізацыі, выканаўчага і педагагічнага майстэрства на медных духавых і ўдарных інструментах, вядомая «Акадэмія старадаўняй музыкі» і інш.). Для падтрымкі нашай будучыні МТ устанавіла 6 імянных стыпендый студэнтам вышэйшых і навучэнцам сярэдніх спецыяльных музычных устаноў.

А вось вельмі прынцыповае палажэнне справаздачы, якое датычыць і нашай будучыні, і мінулага: «Спыняючы сваю дзейнасць, МТ перадае СМД Беларусі эстафету, лічачы, што наступным этапам у гэтай рабоце (даследчыцкія пошукі, вяртанне музычна-гістарычнай спадчыны.— **С. Б.**) павінен стаць сацыяльны заказ, які дасць пачатак манументальнай, шматгадовай, мнагааўтарскай працы па ўстанаўленні гістарычнага мінулага нашай культуры ў сферы выканаўчага майстэрства, музычна-грамадскага жыцця, адукацыі, крытыкі, а таксама паслужыць рэабілітацыі музычна-гістарычнай значнасці асобных буйных фігур у гісторыі беларускай музычнай культуры, раней незаслужана забытых і недаацэненых».

Паспрабавала МТ наладзіць і выдавецкую дзейнасць. У 89 г. выпусціла першы інфармацыйна-публіцыстычны бюлетэнь «Музыка» на беларускай і рускай мовах (10 тысяч экз.). Летась выйшаў другі нумар. І ўдалося дамагчыся дазволу Дзяржкамдруку БССР на выпуск «Музыкі» як штоквартальнага часопіса — выдання СК і МТ БССР, аднак Саюз кампазітараў ад супрацоўніцтва ўрэшце адмовіўся — па фінансавых меркаваннях. Разам з РНМЦ культуры выдадзена нізка твораў для дзіцячых хароў і зборнік беларускіх кантаў, супольна з выдавецтвам «Беларусь» рыхтуецца «Альбом цымбаліста», хрэстаматыя «Беларускі дзіцячы фальклор» і г. д.

Створанае ў сістэме МТ малое прадпрыемства — літаратурна-выдавецкае агенцтва «Эрыдан», якое набірае сілу за кошт прыбыткаў ад выпуску малых кніжных прадукцыі, ужо мае магчымасць для друкавання і музычнай літаратуры. Мяркуецца, што на базе «Эрыдана» будзе ажыццяўляцца і выпуск штомесячнага музычнага часопіса, назва якога пакуль не зацверджана. Ёсць, пра што паведаміў М. Дрынеўскі, варыянты: «Камертон», «Беларускі камертон». (Успамінаецца мая родная школа, або па-цяперашняму — «ліцэй пры БДК». Успамінаецца школьны клуб «Дамінанта». Чым не імя для часопіса? І музычнае, і шматзначнае слова, і



На парадку дня з'езда...

# ПРАЎДЗІВАЕ СЛОВА ГІСТОРЫКА

Споўнілася 85 год Аляксандры Бергман. Больш трыццаці гадоў даследуе яна рэвалюцыйны і нацыянальна-вызваленчы рух даваеннай Польшчы і Заходняй Беларусі. Вывучае лёс яго выдатных прадстаўнікоў, вядомых і невядомых, іх спадчыну.

Працуе самастойна, не з'яўляючыся членам нейкай навуковай дзяржаўнай структуры. Проста па загаду сэрца. Чалавек няўрымслівай душы, дапытлівага розуму неадступна здабывае яна як гісторык праўду аб падзеях і людзях гэтага няпростага самога па сабе і заблытанага ў неадэкватных ацэнках і свядомых палітычных інсінуацыях часу.

Аляксандра Бергман прыйшла ў навуку сталым чалавекам. За плячамі былі гады працы ў камуністычным падполлі даваеннай Польшчы. Семнаццацігадовай дзеўчынёхай у 1923 годзе гараднічанка Бергман, тады яшчэ Кучкоўская, звязала свой лёс з небяспечнай, рызыкоўнай работай падпольшчыка: была інструктарам, працавала сакратаром акруговых камітэтаў Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі ў Вільні, Горадні, Брэсце, Баранавічах, Беластоку. Удзельнічала ў грамадаўскім руху. На пачатку 30-х гадоў стала членам сакратарыята ЦК КПЗБ. То пад выглядам сялянскай дзяўчыны, павязаўшы хусцінку пад бараду, то ў сціплым уборы местачковай паненкі абышла палову Заходняй Беларусі. Якія ж крутыя былі сцежкі падпольшчыка, але ад дэфензівы, астрогу ўсцераглася.

Не мінула, аднак, маладая камуністка А. Бергман, як і многія капэзэбаўцы і грамадаўцы, сталінскага ГУЛАГа. А вырваўшыся з яго, пераехала ва ўжо новую Польшчу. Новую, у параўнанні з той, даваеннай. Нейкі час апрытомнівала ад перажытага, працавала ў рэдакцыі часопіса «Жыце партыі». У другой палове 50-х гадоў пачаўся працэс дэміфалагізацыі палітычна-грамадскага, духоўнага жыцця, былі зроблены першыя крокі яе. У Польшчы, дзе да кіраўніцтва краінай прыйшлі людзі, як Гамулка, што на сваім лёсе зведалі палітычную сутнасць сістэмы сталінізму, працэс ачышчэння ад мораснасці мінулага набыў рэальныя, перспектыўныя рысы. Грамадская думка развівалася дынамічна. Адным з састаўных яе было праўдзівае, навуковае асэнсаванне рэвалюцыйнай спадчыны, урокаў і драмы камуністычнага руху даваеннай і пасляваеннай Польшчы. У пазнанні мінулага, а было яно старонкай яскравай, непаўторнай, нягледзячы на суровасць і драматызм, А. Бергман знайшла сваё месца. І месца дастойнае. Як гісторык і публіцыст вылучыла яна сваю праблему, у пэўнай меры суадносную з уласным жыццёвым досведам. Пачала з эцюдаў, успамінаў пра тых, хто быў побач у рэвалюцыйным падполлі — пра Веру Харужую, Зосю Панкову. Хутка выйшла, аднак, на праблематычную і фундаментальную тэму Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Спачатку, так і назваўшы сваю публікацыю «Беларуская сялянска - работніцкая грамада», выступіла з ёй у часопісе «Zpoliawałki». Пазней, расшырыўшы асобныя палажэнні, — у «Навуковым зборніку», выдадзеным ГК БГКТ у Польшчы. У саракавую гадавіну паўстання БСР грамады прачытала даклад аб узнікненні і дзейнасці яе на Беласточчыне.

У сваіх новых росшуках, роздуме яна зноў і зноў вярталася да тэмы БСР грамады. «Грамада праз пяцьдзесят год», «Наш доўг», «Вяртаючыся да праблем Грамады», «Некалькі слоў пра Грамаду» — гэта назвы артыкулаў, эцюдаў, нататак пра грамадаўскі рух, яго сацыяльна-палітычныя і нацыянальныя падставы, характар, гісторыю. Апублікаваныя ў паважных навуковых польскіх выданнях, у беларускім тыднёвіку «Ніва», «Беларускіх календарах», па нашаніўскай традыцыі выдаваныя кнігамі, яны прыцягвалі ўвагу навуковай грамадскасці і былі спажыўнай духоўнай стравай культурна-грамадскага жыцця беларускай меншасці ў Польшчы, дзе, асабліва на Беласточчыне, традыцыі Грамады жылі ў памяці старэйшага пакалення. Падсвечаныя навукова, у жывым публіцыстычным слове яны інтэгрыраваліся ў культурна-грамадскай працы БГКТ, былі ідэйна - псіхалагічным апірышчам у адраджэнцкіх імкненнях людзей, згуртаваных вакол яго. Напачатку польская акадэмічная навука не адрэагавала на ўварванне на старонкі яе выданняў новай, незнаёмай ёй праблематыкі. Не было чутно на публікацыі Бергман пра Грамаду ні хвалы ні хулы і з Мінска, з Савецкай Беларусі, калі не лічыць асабістых удзячных лістоў двух-трох пісьменнікаў. Аднак пасля выхаду ў свет першай асобнай кніжкі Аляксандры Бергман, манаграфіі «Слова пра Браніслава Тарашкевіча», гісторык і яе праца былі заўважаны польскай акадэмічнай навукай, і невыпадкова. Кніга А. Бергман расказвала пра палітыка буйнога, постаць інтэлектуальна высокую, самавітую, не толькі ў беларускіх, але і ўсепольскіх маштабах.

Многае з напісанага ёю пра дзеячаў беларускага руху, палітыкаў, асветнікаў, публіцыстаў, сабрана ў кнізе «Беларускія справы ў 2-ой Рэчы Паспалітай». Складае другі раздзел яе. А ў першым аб'яднаны рознатэматычныя рэчы, пераважна з ранейшых прац даследчыцы. Сярод іх асаблівай навізной, кажу асаблівай, бо ў сваіх пошуках гісторык у прынцыпе ішла цалінай, вылучаліся распрацоўкі «Беларускае пытанне ў Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі» і «Беларуская рэвалюцыйная арганізацыя». Нацыянальнае пытанне ва ўмовах вызваленчага руху і для КПЗБ набывала не тэарэтычнае значэнне. З ім былі звязаны такія карэнныя праблемы яе дзейнасці, як пошук саюзніка, пытанне ўплыву на масы. Для заходнебеларускіх камуністаў вырашэнне яго ўскладнялася кан'юнктурнай увязкай з практычнай палітыкай у СССР, непасрэдна ў БССР. Ужо дзесь з 1928 г. КПЗБ траціць тую арганічнасць і тонкасць у трактоўцы нацыянальнай праблемы, якія былі ўласцівы ёй у гады грамадаўскага ўздыму. Даследчыца крытычна, аб'ектыўна асвятляе перыпетыі, нюансы нацыянальнай палітыкі КПП і КПЗБ у кантэксце ўсяго палітычнага жыцця ўсходнееўрапейскага рэгіёну. Яшчэ больш безнадзейна, чым спадчына КПЗБ у ацэнцы гісторыкаў выглядала гісторыя і дзейнасць Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі, папярэдніцы КПЗБ на заходнебеларускіх землях. Калі тэма Кампартыі Заходняй Беларусі, адкрытая для даследчыкаў пасля XX з'езда партыі, няхай сабе і не ўсебакова, няпоўна стала вывучацца, то над БРА працягвала вісець закляцце вульгарна - сацыялагічнай гістарыяграфіі 30—40-х гадоў. Ужо ў пачатку 30-х гадоў падручная крытыка разам з ГПУ пачалі шукаць радзімыя плямы БРА у КПЗБ. У выніку — вядомыя кіраўнікі КПЗБ, выхадцы з Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі Л. Родзевіч, А. Капуцкі, А. Канчэўскі к таму часу паспеў утапіцца ці быў утоплены, сталі ахвярамі суда строгага і няправага. Сумны факт: у кіруючым ядры БРА была гронка людзей творчых і не адзін толькі таленавіты драматург Л. Родзевіч, а і той жа Лагіновіч ды Канчэўскі. А. Бергман у ёмістым эцюдзе паказала гісторыю ўзнікнення БРА ў Вільні на палітычным зломе эпохі, адразу па ўсталяванні польска-савецкай мяжы. Прасачыла яе палітычную эвалюцыю ў бок БССР і, нарэшце, праз два гады дзейснай працы, уваход у КПЗБ пры афармленні гэтай апошняй увосень 1923 года як самастойнай партыі. Напісала А. Бергман і даволі грунтоўную працу пра орган БРА «Наш сцяг», у якой адлюстравала дынаміку грамадскай думкі Заходняй Беларусі, пошук яе інтэлігенцыяй выхаду з трагічнага становішча свайго народа. На жаль, гэта публікацыя гісторыка не ўвайшла ў яе другую, зборную кніжку, засталася ў перыядычным выданні. Але, мабыць, можна спадзявацца яшчэ і на трэцюю кнігу А. Бергман. Апошнія публікацыі прызнанай даследчыцы, у тым ліку пра беларуска-яўрэйскія культурныя сувязі, інтэрв'ю з ёй даюць падставы для такой надзеі.

Пажадаем жа гісторыку, публіцысту Аляксандры Бергман, што з такой душэўнай і інтэлектуальнай аддачай працуе над старонкамі нашага мінулага, рэалізацыі творчых планаў, зямной трываласці. Скажам ёй грамадою шчыры дзякуй.

**Арсень ЛІС.**

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# ЦІ ЧУЕ ХТО?

Хачу падзяліцца сваімі думкамі і развагамі адносна радыё- і тэлеперадач з Гомеля, якія я слухаю і гляджу, знаходзячыся ў штогоднім адпачынку на радзіме. Пра перадачы іншых абласных цэнтраў гаварыць не бяруся, але, думаецца, вялікай розніцы між імі няма.

І кожны раз міжволі параўноўваю іх з перадачамі нашага абласнога цэнтра г. Мурманска, якія, дарэчы, і па працягласці часу намнога даўжэйшыя, і з сумам сабе зазначаю, што мае землякі маглі б пазайздросціць жыхарам Мурманскай вобласці. Так, напрыклад, штодня ідзе перадача па тэлебачанні «Каждый вечер с вами». Цікавая яна тым, што гледачам даюць не толькі навіны, якія адбыліся ў вобласці і ў самім горадзе, але штовечар уключаецца прамая лінія, на якую запрашаюцца кампетэнтныя асобы, якія могуць адказаць на тыя «гарачыя» пытанні, што ўзнікаюць як у асобных жыхароў вобласці, так і ў цэлых прадпрыемстваў ці ўстаноў. І гэта робіцца непасрэдна з дапамогай тэлефонных размоў. А хіба ў нашай вобласці няма ніякіх праблем, што цікавяць жыхароў Гомельшчыны? Гомельская ж вобласць і сам Гомель па колькасці насельніцтва пераўзыходзіць Мурманск і вобласць. Нямала часу аддае Мурманскае абласное тэлебачанне і экалагічным праблемам.

Гэта ж тычыць і радыёперадач. Ну што гэта за перадача з Гомеля? Невялікія навіны, што адбыліся ў вобласці, і, як заўсёды, канцэрт па заяўках. А ў Мурманску? Назаву толькі адну ранішнюю перадачу, з якой мурманцы даведваюцца пра наяўнасць білетаў як на чыгунцы, так і ў аэрапорце, пра запрашэнні на работу, паступленні ў інстытут, тэхнікумы, розныя вучылішчы, а таксама пра шматлікія прыватныя аб'явы: хто згубіў альбо знайшоў штосьці і г. д. Жыццё ідзе, яно шматграннае, і на гэта не забываюць работнікі як тэлебачання, так і радыё.

І што яшчэ мяне здзіўляе ў гомельскіх перадачах, дык гэта кепскае валоданне дыктарамі беларускай мовай. У перадачы «Паказвае Гомель» спартыўны каментатар вядзе перадачу наогул па-руску. Думаю, што такое не сустрэнеш ні ў якай іншай рэспубліцы. Гэта так увасабляецца ў жыццё ў нас Закон дзяржаўнасці беларускай мовы?

А як пачынае свае раённыя перадачы Жлобін? Калі б не ведаў, што гэта беларускі горад, то можна было б падумаць, што ідуць яны з якога-небудзь горада Мурманскай вобласці. Хоць бы на самым пачатку перадачы словы «Гаворыць Жлобін» гучалі па-беларуску. А, можа, ніхто не чуе, «как вещает» жлобінскае радыё?

**А. ПЯТРУННІКАЎ.**
г. Манчагорск,
Мурманская вобл.

**СТАРОНКІ ЎСПАМІНАЎ**

**Мікола УПЕНІК**

# ДАНІНА ПАШАНЫ

**У кнізе ўкраінскага пісьменніка М. Упеніка «Старонкі з блакнота», якая выйшла ў выдавецтве «Радянський письменник» і ўключае франтавыя запісы аўтара, многія радкі прысвечаны баявой дружбе пісьменнікаў — работнікаў армейскага друку. Старонкі аб франтавым сяброўстве ўкраінскага пісьменніка Міколы Упеніка і беларускага паэта Алеся Жаўрука прапануем нашым чытачам.**

...Я стаў афіцэрам легендарнай 62-й арміі, якой камандаваў генерал, а пазней Маршал Савецкага Саюза Васіль Іванавіч Чуйкоў. Мяне прызначылі спецыяльным карэспандэнтам (гэта пасада яшчэ называлася «пісьменнік армейскай газеты») друкаванага органа Ваеннага Савета — газеты «На защиту Родины».

Рэдакцыя размяшчалася ў некалькіх сялянскіх хатах. Як і мая «дывізіёнка», яна таксама знаходзілася на колах, здольная ў любы момант, кажучы па-вайсковаму, змяніць дыслакацыю. Я знайшоў тут новых сяброў, пляча ў пляча з якімі прайшоў шлях даўжынёй у некалькі гадоў—шлях вельмі цяжкі, але пераможны. Стаць афіцэрам такой арміі, як 62-я, што пазней атрымала найменаванне 8-й гвардзейскай, — высокі гонар. Ганаруся, буду ганарыцца да канца свайго жыцця прыналежнасцю да гераічнай арміі, чыя слава не памеркне ніколі.

Але калі я апынуўся ў Калачы, да перамогі на берагах Волгі было яшчэ далёка. На Доне, а потым у міжрэччы і непасрэдна ў самім Сталінградзе толькі пачыналася бітва, роўнай якой не ведала гісторыя.

Газета «На защиту Родины» выходзіла амаль штодзённа, літсупрацоўнікам хапала працы. Не заставаліся без работы і мы, двое паэтаў: беларус Алесь Жаўрук, які прыйшоў у рэдакцыю раней, і я, украінец. Алесь ужо вёў раздзел салдацкага гумару і сатыры, які даваў адчувальныя «залпы» па ворагу. Нярэдка мой таварыш публікаваў лірычныя вершы, публіцыстычныя радкі, звернутыя да нашых воінаў і падпісаныя сціпла «А. Сінічкін».

Нямала сіл аддавалі мы праслаўленню нябачнай адвагі салдат і афіцэраў легендарнай арміі, якія стаялі насмерць на правым беразе вялікай рускай ракі (да гэтага часу захоўваю выразку з газеты з баладай пра выдатнага нашага снайпера Героя Савецкага Саюза Васіля Зайцава, які цяпер жыве ў Кіеве); патрэбны былі і плакатныя радкі, што выпускаліся лістоўкамі або накрэсліваліся буйнымі літарамі на рэштках дамоў, заводскіх цэхаў; адыгрывалі сваю ролю і подпісы пад карыкатурамі на гітлераўскіх ваяк— іх па-майстэрску маляваў, а потым выразаў на лінолеуме (цынкаграфіі ў нас не было) мастак з Архангельска Юрый Данілаў. Я добра разумею, што сёе-тое са зробленага тады намі выглядае цяпер наіўным. Але тады ўсё гэта працавала на будучую перамогу.

Незадоўга да свайго скону Маршал Савецкага Саюза В. І. Чуйкоў пісаў аб тым, што «ў цяжкія дні і ночы Сталінградскай бітвы савецкія воіны бачылі ў сваім асяроддзі пісьменнікаў М. Шолахава, К. Сіманава, А. Суркова, Я. Далматоўскага і іншых байцоў «літаратурнага палка». Іх слова можна параўнаць з баявым снарадам, які паражаў самую небяспечную цэль у стане ворага». Гэта высокая ацэнка дзейнасці тых, хто ішоў без страху і заганы на бітву за нашу свабоду і шчасце.

...Дзень дваццаць трэцяга жніўня сорак другога года памятае кожны, хто ў тую вогненную пару быў у Сталінградзе. Рэдакцыя нашай газеты размяшчалася ў райцэнтры Гарадзішча — ён добра відаць з вяршыні Мамаева кургана. На дапамогу наземным войскам, якія рваліся да Сталінграда, была кінута фашысцкая паветраная армада. На працягу другой палавіны таго памятнага дня яна разбурыла горад. У руіны і попел гітлераўскія вандалы ператварылі праспекты, вуліцы, бульвары, вялізны заводскі раён Сталінграда, які распрасціраўся ўздоўж Волгі на многія кіламетры ад Трактарнага да паўднёвых ускраін.

Не абышлі раз'юшаныя сцярвятнікі і Гарадзішча. На лядашчы населены пункт яны таксама сыпанулі сотні бомб. Адна з іх трапіла ў падворак, дзе размяшчалася наша газета. Алесь Жаўрук быў цяжка паранены. Сябры паклалі яго на грузавік, які скіроўваўся ў шпіталь. Пазней нам стала вядома, што фашысцкая бомба выбухнула і ў раёне шпіталя. Алесь атрымаў другое раненне. Яшчэ жывога, разам з іншымі воінамі яго перанеслі на бераг Волгі, а адтуль — на палубу судна, каб пераправіць на левы бераг. Але варварскі налёт фашысцкай авіяцыі не спыняўся. Паветраныя піраты прыкмецілі судна і скінулі бомбу проста на яго, хаця над палубай развяваўся сцяг з чырвоным крыжам.

Разам з дзесяткамі салдат беларуса Алеся Жаўрука навекі прыняла волжская вада.

...Калі ў Кіеве праз гады рыхтавалася выданне «Анталогіі беларускай паэзіі» на ўкраінскай мове, я папрасіў даць мне на пераклад вершы Алеся Жаўрука. Я хацеў хоць бы гэтым прынесці яму даніну пашаны — майму таварышу, з якім я, уласна кажучы, і не паспеў як след зблізіцца.

Па меры сваіх сіл я ўшанаваў яго памяць. Пераклады былі ў анталогіі апублікаваны. Пра нашы франтавыя дарогі я расказаў беларускім сябрам у Мінску, калі мы прыбылі да іх, каб уручыць наш падарунак — два цудоўна выдадзеныя тамы паэзіі братняга народа.

Палымяныя радкі Алеся Жаўрука, уключаныя ў анталогію, былі прысвечаны героям іспанскай рэспубліканскай арміі, байцам-інтэрнацыяналістам, што першымі ўступілі ў смяротную схватку з фашыстамі там, на Пірэнеях. Гэта быў урывак з паэмы «Крывёю сэрца».

Не ведаю, чаму складальнікі анталогіі спынілі сваю ўвагу на гэтым творы. Але ўрывак з паэмы пра Іспанію быў выбраны вельмі дакладна.

Алесь Жаўрук, аўтар паэмы, загінуў дваццаць трэцяга жніўня сорак другога ў Сталінградзе.

У той жа дзень пад Сталінградам паў смерцю храбрых і камандзір кулямётнай роты 35-й гвардзейскай дывізіі старшы лейтэнант Рубен Руіс Ібаруры, сын Пасіянарыі...

Пераклаў Алесь МАЖЭЙКА.

Васіль АБРАЗОЎСКІ

# Ад кастрычніка 1917-га да лютага 1918-га

## Хроніка падзей

Каля 21 снежня сябры Белвайскрады рэквізавалі сабе новае памяшканне на Паліцэйскай вуліцы № 2, дзе зноў разгарнулі апарат БВЦР і куды перавялі Раду Усебеларускага з'езда. 21 снежня там жа Рада, абмеркаваўшы пытанне аб разгоне з'езда, пастанавіла сабраць і паслаць яго дакументы ва ўсе воласці, Саветы і іншыя дэмакратычныя арганізацыі, на фронт і надрукаваць ва ўсіх газетах, а таксама вылучыла з свайго складу Выканкам Рады Усебеларускага з'езда. Рэдакцыю газеты «Беларуская Рада» перанеслі за моцныя сцены Бабруйскае крэпасці, дзе мяснікоўцам нельга было яе дастаць.

Як рэакцыя на звесткі аб гвалце над беларусамі — узнікненне 28 снежня на Румынскім фронце (па загадзе генерала Шчарбачова) Беларускай вайсковай камісіі для арганізацыі беларускіх вайсковых часцей. Згодна з пастановамі з'езда, змагаючыся за выратаванне Беларусі ад падзелу, Выканкам Рады з'езда накіроўвае дэлегацыю на перамовы ў Берасце. Прабрацца туды з-за бальшавіцкіх перашкод удалося аднаму Івану Краскоўскаму, і то пад выглядам «райца» ўкраінскае дэлегацыі. Прадстаўнікі УНР прыбылі туды 31 снежня і адразу занялі супрацьлеглую расійскую пазіцыю, чым нямала здзівілі германцаў, якія лічылі, што Троцкі вядзе перамовы ад усёй Расійскай імперыі. У далейшым украінцам удалося адстаяць сваю незалежнасць на перагаворах; аднаму ж Краскоўскаму абараніць інтарэсы Беларусі было не пад сілу.

Тым часам Петраградскі СНК даручыў галоўкаверху Крыленку не марудзячы ўвайсці ў кантакт з Белвайскцэнтррадай. БВЦР, даведаўшыся пра гэта, зараз жа (каля 25 снежня) накіравала сваю дэлегацыю ў складзе Кастуся Езавітава і Івана Серады ў Магілёў. Прапаршчык Крыленка ў Магілёве жыў не ў рэзідэнцыі галоўкаверха, а ў спецыяльным цягніку, да якога быў заўсёды прычэплены паравоз пад парай,— і гэта пры адсутнасці нават намёку на нейкія вайсковыя дзеянні на Заходнім фронце. Акрамя таго, па ўспамінах Езавітава, бальшавіцкі ваявода быў апрануты вельмі неакуратна, нядбайна і брудна. Пасля вельмі цяжкай і напружанай размовы беларусы атрымалі дазвол на фармаванне «Беларускай Чырвонай арміі». Але адразу ж свае карэктывы пачаў уносіць прапаршчык на пасадзе галоўказапа Мяснікоў. Ён настойваў на стварэнні змешанай камісіі «для дэталёвай распрацоўкі плану фармавання». Першае яе пасяджэнне 2 студзеня было перарвана з-за непадрыхтаванасці бальшавіцкага боку. 4, 7, 9-га і далейшыя дні Камісія прыступіць да працы не магла, бо прадстаўнікі Саўдэпа на сход наогул не з'яўляліся.

На Румынскім жа фронце загады аб беларусізацыі вайсковых часцей памочнік галоўнакамандуючага фронтам генерал Шчарбачоў выдаваў адзін за адным. Першага студзеня беларусізуецца Шосты Таўронскі пагранічны конны полк, які ўжо мае назоў «Першага Гусарскага Беларускага Нацыянальнага палка», 8-га студзеня — 4-ты Армейскі корпус з артылерыяй, браневікамі і дапаможнымі групамі, 10-га студзеня — 357-я Віцебская і 407-я Мінская дружыны, а 21 студзеня — фарміруецца Беларуская дывізія. (Усе гэтыя часці складаліся з беларусаў, але па асабістым жаданні ўключаліся і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў.) А недзе каля сярэдзіны лютага, паводле ўспамінаў К. Езавітава, 100-тысячнае Беларускае Войска рыхтавалася да перапраўкі на Бацькаўшчыну. На жаль, з-за шматлікіх прычын гэта не атрымалася.

А ў Берасці працягваліся мірныя перамовы. Ужо на канец снежня германская дэлегацыя ясна сабе ўсведамляла, што галоўным імкненнем бальшавікоў было не заключэнне пагаднення, а шырокі агітацыйны паход для прапаганды сваіх ідэй. Як адзначаў у сваіх успамінах Людэндорф, «тон Троцкага станавіўся ўсё агрэсіўнейшы, і хоць за сабою ён увогуле не меў ніякай рэальнай сілы, ён усё болей і болей ставіў нам умовы... Троцкі і Антанта радаваліся затрымцы перамоў, прычым першы карыстаўся ўсялякім выпадкам, каб патрабаваць пераносу перамоў з Берасця ў нейтральны горад. Па радыё ён апавяшчаў увесь свет і, галоўным чынам, германскіх працоўных аб сваіх бальшавіцкіх ідэях... Заключэнню пагаднення перашкаджалі не нашы патрабаванні, а рэвалюцыйныя імкненні бальшавікоў... Перамовы не рухаліся з месца. Такім чынам, як яны вяліся ў Берасці, наогул нельга было дабіцца міру...» У супрацьлегласць расійцам, прадстаўнікі Украіны, па словах таго ж Людэндорфа, вялі перамовы «на трывалай глебе, і не губляліся ў галіне фантастычных і аддаленых крокаў, на здзяйсненне якіх патрабаваліся стагоддзі, калі толькі іх наогул можна было здзейсніць».

Яшчэ да 4 студзеня ўдзельнікам перагавораў з інфармацыі Івана Краскоўскага стала вядома аб бальшавіцкім гвалце над беларускім народам у ноч з 17 на 18 снежня, а 4 студзеня ў адказ на разважанні Троцкага аб прынцыпе самавызначэння нацый германскі прадстаўнік Гофман заявіў, што «ў ноч з 30-га на 31-га снежня (новы стыль) Першы Беларускі Кангрэс у Мінску, які хацеў настаяць на праве самавызначэння беларускага народа, быў разагнаны бальшавікамі пры дапамозе штыкоў і кулямётаў».

5 студзеня Троцкі паведаміў, што будзе адсутнічаць шэсць дзён, і паехаў у Петраград, дзе бальшавікі расстралялі дэманстрацыю рабочых, разагналі Устаноўчы Сход. У неабходны тэрмін Леў Давыдавіч у Берасце не вярнуўся.

Краскоўскі і генерал Гофман не ведалі, што мяснікоўцы на пачатку студзеня разагналі таксама Віцебскую гарадскую Думу і Управу, двойчы арыштоўвалі Варонку — старшыню Выканкама Усебеларускага з'езда.

Беларускія актывісты рыхтаваліся да III Усерасійскага з'езда рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў, спадзеючыся, што ўзнікшыя «непаразуменні» з бальшавікамі нарэшце вырашацца. Рыхтаваліся да сваёй акцыі і палякі з корпуса Доўбар-Мусніцкага. Яшчэ 26 лістапада беларускія патрыёты папярэджвалі Петраградскі СНК аб магчымым выступе Доўбар-Мусніцкага. Было вядома, што ў разе чаго польскія паны на Беларусі возьмуць на сябе ўтрыманне гэтага войска. СНК Заходняга фронту не толькі не прыняў ніякіх мер супраць палякаў, а, наадварот, зрабіў усё, каб разагнаць беларускія часці, якія маглі аказаць ім супраціўленне. І 12 студзеня нарэшце пачаўся польскі мяцеж.

10 студзеня адчыняецца III Усерасійскі з'езд рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў. 12 студзеня на пасяджэнні з'езда ад імя беларускіх сацыялістаў (удзельнікаў Усебеларускага з'езда) робіцца заява, у якой СНК Заходняй вобласці абвінавачваецца ў прымусовым разгоне Усебеларускага з'езда пасля таго, як быў атрыманы дазвол ад Народнага камісарыяту па нацыянальных справах на яго арганізацыю. Адразу за гэтым выступае Ландэр, які спасылаецца на нейкія «махінацыі», пры дапамозе якіх Беларуская Рада нібыта намагалася ўступіць у барацьбу «с действительной властью рабочих, солдат и крестьян **Западной России**». (Западная Россия, Северо-Западный Край, Белая Россия — у гэтым пагляды царскага самаўладдзя, ленінскіх «соратников» і цяперашніх «преобразователей России» сходзяцца *вельмі блізка. І зараз знаходзяцца тыя,* хто хоча бачыць Беларусь «тихой и кроткой».) Выступіўшы ў той жа дзень, Зміцер Жылуновіч спрабаваў абараніць ідэю дэмакратыі. У пратаколе з'езда будучы кіраўнік першага Урада БССР успамінаецца як «выступивший от правого крыла». Чаму? Ды, мусіць, таму, што яго прамова не адпавядала словам Леніна, які раней за Жылуновіча ў той самы дзень сказаў наступнае: «Демократия — на деле — беспрерывное жестокое издевательство, бездушный невыносимый гнет буржуазии над трудовым народом».

На пяты дзень з'езда, 14 студзеня, ад групы беларускіх сацыялістаў выступіў сябар Выканкама Рады 1-га Усебеларускага з'езда, сябар БСГ Тамаш Грыб. У стэнаграме апісваецца, што сходам ён быў сустрэты «крайне не приветливо, благодаря той позиции, которую занимает оратор и которая, конечно, не согласована с позицией белорусского пролетариата. Речь Гримма (так у тэксце, а Ландэр названы «Лана»), указывавшего на *трагическое положение белорусов* в связи с военными действиями, пытавшегося, между прочим, подвергнуть критике политику Советской власти, неоднократно прерывалась негодующими возгласами: «Самозванец. Ложь. Долой Каледина».

Далей Ландэр і К° заявілі «пратэст», дзе, называючы сябе «представителями Белоруссии» (не ведалі ніводнага слова па-беларуску і не пражылі на Беларусі нават і года), сцвярджалі, што беларуская дэлегацыя ім невядомая, што «белорусскому народу чужды эти, чуждые русской революции люди, и что ничего общего с трудовым белорусским народом не имеют и не могут иметь по самому смыслу, глубокому творческому смыслу русской революции. Еще раз глубоко протестуем и снимаем с революционного белорусского народа навет этих чуждых незнакомцев и торжественно заявляем, что Белоруссия отдает Советской власти все, что есть у нас великого и мощного для сокрушения всего того, что так или иначе стоит на нашем творческом пути к новому миру, к социализму, к интернационалу». Так Ландэр і кампанія сталі большымі беларусамі, чым Зміцер Жылуновіч, Тамаш Грыб, Алесь Чарвякоў ды іншыя.

Урэшце, як і трэба было чакаць, III Усерасійскі з'езд Саветаў падтрымаў дзеянні СНК Заходняй вобласці.

Адразу ж, адчуўшы падтрымку, адрэагаваў на гэта Мяснікоў. У БЦВР ад Саўдэпа прыйшла папера аб тым, што ён адклікае сваіх прадстаўнікоў з Камісіі, бо фармаванне Беларускай арміі лічыць непатрэбным і шкодным. У гэтых варунках нельга было й думаць аб легальным фармаванні нацыянальных вайсковых часцей у межах Беларусі.

Тут трэба адзначыць з'яўленне нейкага непаразумення і пачатак расколу паміж беларускімі дзеячамі.

Тая частка лідэраў беларускага руху, якая была больш звязана з працай сярод уцекачоў і рабочых (Жылуновіч, Чарвякоў, Дыла), дарэчы, вельмі нешматлікая, працягвала верыць бальшавіцкім дакляраванням і спадзявалася на магчымасць пагаднення з Петраградам. Другая, шматлікая частка беларускай інтэлігенцыі, якая гуртавалася вакол Рады Усебеларускага з'езда і Беларускай Цэнтральнай Вайсковай Рады, глядзела на рэчы больш цвяроза. Гэтыя людзі канчаткова пераканаліся ў тым, што навяўленыя дзяржаўнікі, акрыўшы ўсе свае ўчынкі лозунгам «дыктатуры пралетарыяту», імкнуцца да стварэння «турмы народаў» мікалаеўскага ўзору, але са значна больш жорсткім рэжымам. Кіраўнікі гэтай плыні вырашылі згуртаваць сілы дзеля абароны інтарэсаў Бацькаўшчыны.

**Асноўная праца легла на Белвайскцэнтрраду на чале з Сымонам Рак-Міхайлоўскім, Кастусём Езавітавым, Язэпам Мамонькам і Васілём Захаркам. Канспіратыўнымі метадамі ў кароткі час былі зменены склад 289-га пяхотнага палка ў Мінску. Беларусамі ў ім былі 75 працэнтаў салдатаў, якія прыбылі ў Менск маленькімі групкамі. (Яшчэ раней у гэты полк былі ўліты загадам Мяснікова салдаты з расфармаванага Беларускага палка.) Адначасна было пераведзена, звольнена «ў водпуск» і дэмабілізавана з таго ж 289-га палка шмат рускіх, якія рваліся ў Расію — далей ад неспакойнага фронту і наспяваўшых падзей у Мінску. Заставалася толькі вызваліцца ад рэшты і памяняць некаторых камандзіраў. Праца гэта праводзілася вельмі асцярожна і па магчымасці патаемна. Полк кожны дзень адведвалі сябры Белвайскрады, якія закладалі ў кожнай роце беларускі камітэт, прадстаўнікі якога ўжо зносіліся з вайсковым аддзелам Рады і прыходзілі туды па інструкцыі. Тое ж самае рабілася і ў Мінскай каравульнай камандзе.**

**Асаблівую ролю ў падрыхтоўцы войска іграў паручнік Кастусь Езавітаў. Гэты дваццацічатырохгадовы прыгожы хлопец з моцнай постаццю меў дзве адукацыі: скончыў Віцебскі настаўніцкі інстытут і Паўлаўскае вайсковае вучылішча ў Пецярбурзе. Дзякуючы яго энергіі, рашучасці і больш сталай пазіцыі, чым у шматлікіх беларускіх дзеячаў, справа рухалася вельмі хутка.**

**Адначасна з гэтым вялася шырокая праца ў вёсках наўкол Мінска: сяляне ахвотна памагалі Радзе збіраць і захоўваць зброю і боепрыпасы, пакінутыя дэмаралізаванай арміяй. Справай гэтай кіраваў Сымон Рак-Міхайлоўскі, адзін з будучых лідэраў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, які часта выязджаў на фронт і ў прыфрантавыя вёскі.**

**Белвайскрада становіцца асяродкам, вакол якога гуртуюцца не толькі беларусы-вайскоўцы, але і рэшта актыўнага беларускага грамадства, да яе ж скіроўваюцца і прыслухоўваюцца іншыя нацыянальныя арганізацыі людзей, якія апынуліся на Заходнім фронце, — ад украінцаў да азербайджанскіх татараў. Здарался, што сходы ўкраінскай вайсковай рады Заходняга фронту праходзілі ў будынку БЦВР.**

**Убаку трымаліся толькі палякі, якія бачылі ў беларусах варожую іх класавым інтарэсам сілу. Менавіта ў адносінах з палякамі класавае змаганне супадала з міжнацыянальным. Палякі спяшаліся ўсімі сіламі апярэдзіць беларусаў і захапіць уладу ў свае рукі, не спыняючыся дзеля гэтага ні перад супольнаю працаю з бальшавікамі, ні перад правакацыямі. Яны займаюць пасады ў штабе Мяснікова, вядуць безупынную разведку таго, што робіцца ў Белвайскрадзе.**

Спачатку беларусы ніяк не маглі зразумець мэты і палітыку Польскай Вайсковай Арганізацыі (POW), якая працавала ў Мінску. Не было нават і думак аб варожых намерах палякаў. Але хутка было заўважана, што некаторыя сакрэтныя паперы і тэлеграмы з Вайсковай Рады на пэўны час зніклі. Заўважана было, што два канцылярскія служачыя БЦВР, якія папрасіліся на працу, увечары накіроўваліся ў штаб ПОВ. Тады беларусы сталі прыглядацца да гэтай арганізацыі і вельмі здзівіліся, калі ўстанавілі, што многія члены ПОВ з'яўляюцца вельмі ўплывовымі асобамі ў штабе Заходняга фронту. Глухое падазрэнне перайшло ў цвёрдую пэўнасць, калі Белвайскрада ўстанавіла ўрэшце склад Вярхоўнага Польскага Камітэта, які таемна працаваў у Мінску і **кіраваў усёй польскай палітыкай у Расіі, а таксама працай Доўбар-Мусніцкага і Мінскай ПОВ.** У Вярхоўны Польскі Камітэт уваходзілі і вакол яго (а таксама і вакол ПОВ) гуртаваліся выключна буйныя землеўласнікі з Беларусі і Літвы. Таму зусім зразумела, што Белвайскрада была для ВПК страшнейшая і ненавіснейшая за Галоўказапа Мяснікова і СНК Заходняй вобласці і фронту, бо тыя былі прыхаднямі і не мелі каранёў у беларускім народзе, а ЦБВР, як і Рада Усебеларускага з'езда,— выраслі з народнае беларускае глебы, былі ёю ўзгадаваныя. Вярхоўнаму Польскаму Камітэту беларускія нацыянальныя фармаванні былі косткаю ў горле.

І не дзіва, што праз некалькі дзён, пасля таго, як была выкрыта «праца» двух чыноўнікаў БЦВР, дабытая імі інфармацыя апынулася ў руках Мяснікова. Зараз жа ў мінскія казармы, дзе стаяў 289-ты полк, былі адцягнуты з фронту і пастаўлены два другія палкі з кулямётнымі камандамі і бамбамётамі. А каля 20 студзеня ўвесь 289-ты полк быў на месяц выведзены з Мінска «на вартаванне чыгунак». Гэта фактычна раззброіла Раду Усебеларускага з'езда.

(Працяг. Пачатак у № 23).

Мяснікоўцы ўпэўнена праводзяць сваю палітыку. 18 студзеня выходзіць загад аб арышце Магілёўскага Саўдэпа і прыцягненні яго членаў да рэўтрыбунала. 22 студзеня бальшавіцкі Мінскі Савет распускае гарадскую Думу і Управу «ў сувязі з тым, што дума не прызнавала ўлады СНК Заходняга фронту». 23 студзеня зачынена газета Бунда «Дэр вэкер». 28 студзеня разганяецца Віцебская гарадская Управа. Наогул, у снежні і студзені 1917—1918 гг. бальшавікі ліквідавалі ўсе думы, управы і земствы на Беларусі.

І ў той жа час бальшавікі патаемна рыхтаваліся да эвакуацыі. Выкарыстаўшы пратаколы пасяджэнняў эвакуацыйнай камісіі, «Минская газета» і «Дзеннік Міньскі» надрукавалі артыкул аб рыхтаванай эвакуацыі горада. СНК Заходняй вобласці і фронту ў звароце да жыхароў Мінска заявіў, што «ніякай эвакуацыі горада не прадбачыцца». Газеты былі зачынены, а рэдактараў камісары абяцалі аддаць пад суд.

Інфармацыя ў гэтых газетах не была пазбаўлена сапраўднасці. У Берасці працягваліся мірныя перамовы. 17 студзеня нарэшце з'явіўся Троцкі, які адсутнічаў трынаццаць дзён замест шасці, ім абяцаных. Такія паводзіны мог сабе дазволіць прадстаўнік выйграўшай вайну дзяржавы, але ні ў якім разе не расіец. Тут ужо самі нямецкія дыпламаты зразумелі, што перагаворы з Троцкім ні да чаго прывесці не могуць, і таму 27 студзеня яны падпісалі мір з Украінай. Была прызнана дэ-юрэ яе незалежнасць. У гэты ж дзень Расія ўчыніла незвычайны дыпламатычны і палітычны акт, якога ніяк не маглі чакаць у цывілізаваным свеце: петраградскі ўрад звярнуўся па радыё да германскай арміі з заклікам не падпарадкоўвацца яе вярхоўнаму камандаванню. Аб гэтым далажылі імператару. Вільгельм II загадаў прад'явіць ультыматум савецкай дэлегацыі. 28 студзеня Троцкі ультыматум атрымаў і прамовіў вядомыя словы: «Ни мира, ни войны, а армию распускаем». Непадпісанне Троцкім мірнага дагавору азначала аўтаматычнае касаванне перамір'я. Таму зусім зразумела, што германская армія проста не магла не перайсці ў наступленне.

А што ж у Мінску? Нягледзячы на дзеянні палякаў і мяснікоўцаў, праца Белвайскрады йшла ўсё тым жа спешным парадкам. Мясцовыя грамадскія арганізацыі як у Мінску, гэтак і ў правінцыі, многія ўрадавыя ўстановы і карпарацыі служачых у розных ведамствах з вялікай адвагай і ўсё з большаю свядомасцю і ахвотай дапамагалі працы Белвайскрады, вельмі часта многім рызыкуючы. Сябры Белвайскрады знаходзіліся ў безупынных раз'ездах. Беларусы-чыгуначнікі правозілі іх без усялякіх прапускоў ці білетаў. Павятовыя і валасныя земствы хавалі прадстаўнікоў БЦВР і перавозілі іх з вёскі ў вёску, дапамагалі ў дарозе ўсім патрэбным. Саюз земстваў і гарадоў у Мінску ахвотна і безграшова харчаваў у сваіх сталоўках сяброў Белвайскрады, Рады Усебеларускага з'езда і пасланых да іх дэлегатаў. Служачыя на тэлеграфе, беларусы і беларускі, перадаюць і прымаюць пад носам у дзяжурных камісараў інструктыўныя тэлеграмы Белвайскрады і Рады з'езда ва ўсе беларускія гарады і мястэчкі, а таксама і на ўсе франты. Мала таго, яны звязваюцца з беларусамі-тэлеграфістамі ў Петраградзе і Маскве і праз іх інфармуюць беларускія арганізацыі і расійскую дэмакратычную прэсу аб падзеях у Мінску, а Мінск — аб беларускіх справах у расійскіх цэнтрах. Амерыканскае культурна-дабрачыннае таварыства «Хрысціянская моладзь» перадае ў рукі Белвайскрады свае клубы і кінематографы як у самім Мінску, гэтак і на фронце. Нават некаторыя бальшавіцкія камісарыяты і іх кіраўнікі, каб забяспечыць сабе шлях да адыходу, пачынаюць шукаць сувязь з Белвайскрадай і просяць (як, напрыклад, камісарыят асветы) дапамогі.

З Румынскага фронту, Адэсы, з Кіева і Віцебска штодня пачынаюць прыходзіць усё болей радасныя весткі аб фарміраванні беларускіх часцей. Набліжаецца час пераводу ўсіх беларускіх падраздзяленняў у Мінск. Белвайскрада асцярожна рыхтуецца да перавароту і старанна апрацоўвае план яго. Мінскае інтэнданцтва цішком ад Галоўказапа пачынае забяспечваць сяброў Белвайскрады абмундзіроўкай і нарыхтоўвае на складах «рэзервны запас». Кіруе гэтай справай вопытны (з 1898 года) інтэндант Васіль Захарка.

І ў гэты момант, калі заставалася зрабіць апошні асцярожны крок, на беларускі рух звальваецца новая няўдача. Ці з ініцыятывы Галоўказапа, ці СНК, ці палякаў у ноч з 31 студзеня на 1 (4) лютага на будынак ЦБВР учыняецца новы напад бальшавікоў. Як звычайна, з'явіліся яны пасля паўночы. Групоўку баевікоў складалі матросы, што прыбылі з Магілёва, і члены Мінскай ЧК.

Нягледзячы на позні час, у будынку яшчэ працаваў прэзідыум БЦВР і адбывалася нарада сяброў Рады Усебеларускага з'езда. Чэкісты мелі жаданне арыштаваць усіх сяброў ЦБВР і чатырнаццацігадовага хлопчыка-пасыльнага. Іх запал астудзіла трохі заява Езавітава, што ўсіх сяброў БЦВР арыштаваць адразу немагчыма, бо іх больш за сто. Далейшае становішча змянілі стрэл, зроблены дванаццацігадовым хлапчуком, які начаваў у пакоі БЦВР, і знаходлівасць Езавітава. Большасць сяброў БЦВР, выкарыстаўшы карткі БСГ і растлумачыўшы, што тут нібыта праходзіў сход яе камітэта, зараз жа разышліся. Але ўсё ж было арыштавана шэсць кіраўнікоў Белвайскцэнтррады, у тым ліку — Кастусь Езавітаў, Язэп Мамонька і Васіль Захарка. СНК Заходняй вобласці абвясціў ЦБВР распушчанай, а кіраўнікоў і ўсіх сяброў яе — падлягаючымі рэвалюцыйнаму суду.

Безумоўна, гэта значна расстроіла планы беларускіх дзеячаў. Але гэта была і апошняя кропля, якая перапоўніла чашу цярпення беларускага арганізаванага грамадзянства. З усіх бакоў пасыпаліся ў Мінск і Петраград рашучыя пратэсты беларускіх вайсковых і грамадскіх арганізацый. У Кіеве, Адэсе і Ясах зараз жа пачаліся перамовы з украінскім і румынскім урадамі аб хутчэйшым пропуску і перавозе беларускіх вайсковых часцей праз украінска-бальшавіцкі фронт, адкуль яны пачнуць прабівацца на Мінск.

Каля 14 лютага (паводле старога стылю — 1) у Віцебску канфлікт паміж Белвайскрадай Паўночнага фронту і Віцебскім Губсаўдэпам выліваецца, нарэшце, у адкрытую сутычку. На пляцы перад Мікалаеўскім саборам беларусы бяруць верх над чырвонагвардзейцамі і гоняць іх па ўсіх вуліцах. Улада ў Віцебску пераходзіць да беларусаў. Усе гарадскія арганізацыі і прафсаюзы падтрымліваюць Белвайскраду Паўночнага фронту. СНК Віцебска ўцякае ў Смаленск. Склікаецца новая гарадская дума. Віцебскія беларусы рыхтуюцца на дапамогу ў Мінск. Гэтыя падзеі пацвярджаюцца тэлеграмай аднаго з военачальнікаў Заходняга фронту, Крылова, дзе гаворыцца, што ў Віцебску мясцовыя нацыянальныя часці з радай старшын разагнанай Думы ўзялі на сябе абарону парадку ў горадзе.

Беларускі конны полк у Оршы робіць спробы прабіцца на Мінск.

У Мінску ж расце трывога ў сувязі з чуткамі аб нямецкім наступе. У сувязі з гэтым Мяснікоў 15 лютага выдае «распоряжение», дзе сцвярджаецца, што адзіны выток гэтых чутак — «одно частное неверное сообщение из одного пункта Западного фронта», і пагражае міфічным «рэпарцёрам» са штаба фронту.

16 лютага генерал Гофман, начальнік штаба Усходняга фронту, афіцыйна заявіў савецкім прадстаўнікам у Берасці, што 18 лютага апоўдні пачынаецца стан вайны паміж Германіяй і Расіяй.

17 лютага беларусы, атрымаўшы свежую газету «Звезда», даведаліся з аб'явы Аблвыкамзаха, што «слухи (о немецком наступлении) неверны». Мяснікоў хлусіў: «Советы во всем отчитываются перед народными массами. Они ничего не скрывают от населения». І пагражаў: «Виновные в распространении ложных слухов будут привлечены к строжайшей ответственности».

Прыкладна ў той жа дзень вельмі каштоўную паслугу камісарам зрабілі палякі ў Віцебску. Польскі полк, які стаяў там і абвясціў нейтралітэт у беларуска-бальшавіцкай сутычцы,— напаў на Белвайскраду Паўночнага фронту, арыштаваў яе сяброў, абяззброіў Беларускую каравульную каманду і перадаў арыштаваных і ўладу ў Віцебску бальшавіцкаму Саўдэпу.

Пасля паўдня 18 і зранку 19 лютага, як і папярэдзілі германцы, на ўсім Усходнім фронце пачаліся ваенныя дзеянні. На начным пасяджэнні 18—19 лютага СНК Заходняй вобласці і фронту вырашыў «эвакуіраваць неабходныя ўстановы». Зранку мінчукі адчулі, што ў горадзе робіцца нешта незвычайнае. Раўлі аўтамабілі, трашчалі матацыклы, лётаючы з шалёнай хуткасцю па ўсім горадзе, насіліся грузавікі з групкамі ўзброеных жаўнераў. Нарастала паніка. З гэтага жыхары Мінска зразумелі: «Немцы ідуць». Пасля паўдня стала бачна, што члены СНК Заходняй вобласці і фронту некуды збіраюцца.

20 снежня 1917 года ў звароце да народа з нагоды разгону Усебеларускага з'езда мяснікоўцы пісалі: «...Народ сам разберется, где его враги, где его друзья, и не даст себя обмануть...» Народ сапраўды разабраўся. У гэтым пераконваюць успаміны членаў СНК Ландэра і Усцінава аб падзеях 19 лютага. Здаецца, лепш за іх гэтага не апісаў ніхто.

**К. Ландэр** (яго імем названа вуліца ў Мінску):

— Согласно полученных указаний мы должны были отступать, избегая сражения... В городе началось движение «белорусов», готовивших выступление против нас. На улицах начались мелкие стычки, раздавались выстрелы. Когда тов. Петров, комендант Совета, вечером выводил меня из Совета черным ходом, с парадного уже ворвались вооруженные банды, разыскивая меня и товарищей. На вокзале нас всячески пытались задержать... но мы все же уехали.

**Г. Усцінаў** (член Аблвыкамзаха):

— Солдаты устали от войны, они спешили домой. Стремлением поскорей попасть домой заразились даже отдельные члены Облискомзапа... К вокзалу неслись автомобили, мчались извозчики с седоками, на коленях у которых был багаж. Все это были члены Облискомзапа и его сотрудники. На улицах появились темные личности, злобно кричавшие вдогонку: «Счастливый путь! Скатертью дорога!» Наш поспешный отъезд вызвал злорадство и у обывателей... Были случаи, когда вслед уезжающим летели камни. В некоторых частях города раздавались выстрелы.

Состав был готов, но без паровоза. В него входили два вагона с продовольствием, один с пулеметами, несколько классных вагонов и посередине — платформа с броневиком. В поезде уже находились Ландер... Мясников, Кнорин, Селезнев, Алибегов и больше ста человек членов Облискомзапа. Вся вооруженная сила, которой располагало в этот момент Советское областное правительство, состояла из небольшого отряда красногвардейцев, насчитывавшего около 200 человек, МНОГИЕ ИЗ КОТОРЫХ БЫЛИ ИЗ ЧИСЛА ПОЛЬСКИХ ЛЕГИОНЕРОВ, перешедших на сторону Советской власти. Отрядом командовал Вольфсдорф.

Уже давно пробило 5 часов (вечера), а паровоз к составу все еще не подавали. ...переговоры с железнодорожным комитетом были закончены. Трехдюймовки с броневика установили прицел на станцию, соответствующим образом были приготовлены также и пулеметы. Вольфсдорф с группой красногвардейцев побывал на станции, кое-кому пригрозил, а кое-кого жестоко покарал... На размышления дано 15 минут. После этого срока должна была начаться бомбардировка станции.

Не прошло и 5 минут, как к составу подали два паровоза.

...Настроение в поезде было крайне напряженное. Разнеслась весть, что в один из вагонов сели шпионы. Мгновенно по всему составу прокатился возглас: «Товарищи, среди нас шпионы! Проверяйте документы!» Документы быстро проверили, но шпионов не нашли. Их или совсем не было, или они поспешили спрыгнуть.

Тут же, как только паровоз начал развивать скорость, поезд неожиданно дернулся, где-то послышался жалобный писк рожка, гулко прозвучал тревожный свисток паровоза, неподалеку раздался треск, наш вагон качнуло, как лодку волной, и как будто слегка приподняло на воздух. Поезд остановился... Оказалось, что поезд был разделен стрелкой по двум путям как раз на том месте, где начинались вагоны с пулеметами и продовольствием. Наш вагон сошел с рельс и стоял на краю откоса. Следующий за нами вагон оказался под откосом. Вагон с пулеметами был опрокинут, и пулеметы, сорвавшись со своих мест, сильно поранили несколько человек пулеметной команды...

Маневрировать было некогда. Каждая минута грозила опасностью. Пришлось отцепить весь хвост, начиная с нашего вагона... Кое-что наспех перетащили... в передние теплушки, люди потеснились... Поезд тронулся. Мы благополучно прибыли в Смоленск.

У той час, калі бальшавікі ваявалі з чыгуначнікамі, прыблізна каля 18 гадзін, кіраўнікі ЦБВР уцяклі са зняволення. Праз дзве гадзіны яны сабраліся ва ўмоўленым месцы. Яшчэ праз гадзіну адбылося надзвычайнае пасяджэнне Выканкама Белвайскрады, на якім было вырашана «ўзяць на сябе абарону парадку і бяспекі ў Мінску, а калі спатрэбіцца, то і ва ўсёй Беларусі; а таксама прапанаваць Выканкаму Рады Усебеларускага з'езда выканаць волю з'езда і ўзяць уладу ў свае рукі». Вызначаны былі пункты, падлягаючыя заняццю і замацаванню за беларусамі ў першую чаргу, зараз жа арганізаваны камендатура і сувязь. Камендантам Мінска стаў Кастусь Езавітаў.

У 21 гадзіну 15 хвілін беларусамі быў заняты Арсенал, у 21-20 — гараж і Дом губернатара, дзе быў зняты каравул, а на балконах і на плошчы выстаўлены кулямёты. У 21-25 Езавітаву патэлефанавалі з галоўнай бальшавіцкай базы (гатэль «Еўропа») і паведамілі аб заняцці штаба чырвонай гвардыі, штаба па барацьбе з контррэвалюцыяй і аб захопе вялікай колькасці стрэльбаў, кулямётаў і набояў. У 21-28 быў заняты будынак «Губернского присутствия».

У 22 гадзіны камендатура была перанесена з прыватнай хаты ў Дом губернатара. На пляцы Свабоды да гэтага моманту ўжо былі заняты ўсе памяшканні і згуртаваны ўсе беларускія сілы. На балконе 2-га паверха Дома губернатара віселі два вялікія бел-чырвона-белыя сцягі. На іх было напісана: «Няхай жыве Вольная Беларусь! За Родны Край, за Вольную Беларусь!»

Яшчэ на працягу дня з фронту ў Мінск адзін за другім прыбывалі эшалоны з салдатамі, якія меркавалі, што тут яны ў бяспецы ад немцаў і хацелі высадзіцца. Іх дэлегаты патрабавалі памяшканняў і правіянту. Наспяваў пагром горада. У самы крытычны момант сябры Белвайскрады кінулі чутку, быццам з боку Баранавіч адышоў на Мінск нямецкі бліндзіраваны цягнік. Эшалоны ў адзін момант пагрузіліся і рушылі на ўсход.

У 22-15 па горадзе накіраваліся патрульныя аўтамабілі, якія абвясцілі групкам узрушаных людзей аб тым, што ўлада перайшла ў рукі Выканкама Рады Усебеларускага з'езда і што камісары ўцяклі з Мінска.

Каля 23-х гадзін па тэлефоне ў камендатуру пачалі паступаць звесткі аб выпадках раззбраення некаторых атрадаў і асоб, выконваючых даручэнні беларускай камендатуры. Раззбраенне праводзілася польскімі легіянерамі. Да паўночы ў некаторых мясцінах адносіны так абвастрыліся, што ў ход ледзь-ледзь не пайшла зброя. Своечасова прынятымі мерамі сутыкненні былі не дапушчаны.

У гадзіну ночы Езавітаву прынеслі «загад», напісаны невядомым яму «Представительством военных поляков», у якім абвяшчалася, што палякі-вайскоўцы бяруць на сябе ахову парадку ў горадзе да прыбыцця часцей І-га Польскага корпуса, што з прыбыццём корпуса ўся ўлада пераходзіць яго вышэйшаму камандаванню, што ўсе «нацыянальныя» арганізацыі павінны падпарадкоўвацца загадам камандзіра Польскага корпуса. У рэшце рэшт з яго падыходам горад быў падзелены на дзве часткі. Беларусы кантралявалі паўночна-заходнюю частку з пляцам Свабоды ўключна.

Нарэшце каля чатырох гадзін раніцы горад паціху заснуў. Дзе-нідзе на ўскраінах чуліся яшчэ выпадковыя стрэлы.

Але ўсю ноч засядае Выканаўчы Камітэт Рады Усебеларускага Кангрэса, які апрацоўвае першую Устаўную Грамату да народаў Беларусі і вылучае са свайго складу першы Беларускі Урад — Народны Сакратарыят Беларусі ў ліку сямі Народных Сакратароў з Язэпам Варонкам на чале.

20 лютага беларускія часці па загадзе каменданта зводзяцца ў І-шы Мінскі Беларускі полк пад кіраўніцтвам Радкевіча, конныя часці даручаюцца Нямкевічу і Мядзведзеву, шэфам міліцыі назначаецца вядомы тэатральны дзеяч Фларыян Ждановіч.

21 лютага ў горад уваходзяць нямецкія войскі.

3 сакавіка 1918 года бальшавіцкая дэлегацыя падпісала мір з немцамі. Германскае войска захапіла 85 працэнтаў тэрыторыі этнаграфічнай Беларусі. Нямецкую палітыку ў гэтым раёне вызначаў Берасцейскі дагавор, згодна з якім Беларусь трактавалася як частка Расіі і як своеасаблівы залог пад кантрыбуцыю, якую ўрад РСФСР абавязаўся заплаціць Нямеччыне, — 6 млрд. рублёў у золаце.

9 сакавіка Выканаўчы Камітэт Рады Усебеларускага з'езда выдаў другую Устаўную Грамату да народаў Беларусі. Наша краіна была абвешчана Беларускай Народнай Рэспублікай.

Сусветна вядомы беларускі вучоны прафесар Мітрафан Доўнар-Запольскі так каментаваў падзеі таго часу: «...Мы не спешили отложиться от нашей восточной сестры, но петербургские правители ограбили нашу бедную страну, не дали в ней сложиться правлению на федеративных или автономных началах и бросили нашу родину на произвол судьбы. При таких условиях наше временное правительство обязано было сделать то, что оно и сделало».

